# ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

23 МАЯ 2003 г. № 21/4207 КОШТ 530 РУБ.


*Алесь БЕЛЬСКІ:*

**"Перабудова школьнай адукацыі павінна ісці без рэзкіх перагібаў і ломкі асноватворных традыцый, у разумных межах, без напалу канфрантацыі. І гэта ў першую чаргу тычыцца літаратурнай і моўнай адукацыі."**



4-5

*"Дзівакі"*

**Максіма Горкага ў тэатры жывуць па-сучаснаму.**

10-11



25 мая лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі, сааўтару тэксту Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь *Уладзіміру КАРЫЗНУ* спаўняецца 65 гадоў.

13



ВЫСТАВЫ

# З ВЫШЫНІ ПТУШЫНАГА ПАЛЁТУ



*[illegible] у [illegible] Міністэрства [illegible] спраў [illegible] выстава [illegible]*

11

# ЗАСТАЕЦЦА ТОЛЬКІ САПРАЎДНАЕ

*Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ:*

**"У творчасці я нічога не выдумляю. Бяру ўсё са сваёй малой радзімы, у сваім полацкім перыядзе".**

Глядзіце на стар. 14-15

Міхась МІЦКЕВІЧ і Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ



# КОЛА ДЗЁН

***Прайшлі майскія святы, і гэты тыдзень стаў цалкам працоўным. Ужо ёсць канкрэтныя вынікі. У ноч з 16 на 17 мая затрыманы падазроныя ў выкраданні 12 каштоўных кніг з Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Двое з іх — студэнты БДУ.***

## ЗАПЛАНАВАННЕ ТЫДНЯ

На 28 мая запланаваны ўстаноўчы з'езд прафсаюза работнікаў прамысловасці. Ініцыятарамі стварэння прафсаюза выступілі шэраг прафкамаў буйных прадпрыемстваў, у прыватнасці, АТ "Атлант", завода "Вымяральнік", аб'яднання "Інтэграл", Мінскага аўтазавода і інш.

## ВЫСТАВА ТЫДНЯ

Беларуская фірма "Вамкон" прадставіла на выстаўцы MILEX-2003" самалёт крутога ўзлёту і пасадкі "СМ-1", які стаў першым беларускім суцэльнаметалічным самалётам, выраблены па агульнапрынятай тэхналогіі. Двухмесны апарат можна выкарыстоўваць для першапачатковага абучэння пілотаў, для патрэб народнай гаспадаркі і нават для дапамогі пацярпелым ад стыхійных бедстваў. Мадэль, прадстаўленая на выстаўцы, каштуе 40 тыс. долараў. Абрэвіятура "СМ" расшыфроўваецца як "Сцепанцоў-Маркаў".

## РАШЭННЕ ТЫДНЯ

Урад нашай краіны прыняў рашэнне аб павелічэнні з 1 мая тарыфнай стаўкі 1 разраду для работнікаў бюджэтнай сферы. Адначасова ўзрасла базавая велічыня. Словам, з гэтага месяца тарыфная стаўка 1 разраду бюджэтнікаў павялічыцца з 26.500 да 28.000 рублёў, а базавая велічыня — з 13.300 да 14.000.

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

На 1 студзеня 2003 года ў нашай краіне беларуская праваслаўная царква аб'ядноўвала 1265 абшчын. У яе складзе 10 епархій, 16 манастыроў. Дзейнічаюць 1003 праваслаўныя храмы, яшчэ 157 будуецца. Рыма-каталіцкая царква налічвае 432 прыходы, у якую ўваходзяць 4 епархіі. Акрамя таго, маецца 7 жаночых манастыроў і дзве вышэйшыя духоўныя семінарыі — у Гродне і Пінску. Дзейнічае 371 касцёл, 37 будуецца.

## РОСТ ТЫДНЯ

Паводле звестак дэпартамента занятасці насельніцтва Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, у пачатку мая ў нашай краіне было афіцыйна зарэгістравана 146,5 тыс. беспрацоўных. Гэта амаль на 16 тысяч больш, чым у пачатку года.

## ПАДВЫШКА ТЫДНЯ

Згодна з пастановай Міністэрства эканомікі ад 30 красавіка 2003 года тарыфы на электрычную энергію для насельніцтва, што адпускаецца прадпрыемствам канцэрна "Белэнерга", праіндэксаваныя на 6 працэнтаў. Новыя тарыфы пачынаюць дзейнічаць з 16 мая 2003 года. Цяпер кілават-гадзіна для гарадскога насельніцтва ў дамах, дзе ўстаноўлены электраплиты, будзе каштаваць 49,8 рублёў, а ў доме, дзе няма электраплит, — 68,5 рублёў.

## ПАТАННЕННЕ ТЫДНЯ

Адпаведнай пастановай Міністэрства фінансаў Беларусі былі ўстаноўлены новы прэйскурант цэн на каштоўныя металы ў вырабах і ломе, якія скупляюцца ў фізічных асоб. На гэты раз золата і серабро патаннела. Калі ў сакавіку грам золата 375-й пробы прымалі ў скупку па 6780 рублёў, то зараз па 6232 рублі. Золата 500-й пробы прымаюць па 8309 рублёў за грам, 583-585-й — па 9722 рублі, 750-ай — па 12.464 рублі, 900-ай — па 14.965 рублёў, 916-й — па 15.222 рублі, 950-ай — па 15.787 рублёў, 958-ай пробы — па 15.920 рублёў.

## ПЛАНЫ ТЫДНЯ

У будучым годзе пачнуцца падрыхтоўчыя работы па прадаўжэнні лініі метро ў паўднёва-заходнім накірунку. Лінія метро ад станцыі "Інстытут культуры" да станцыі "Пятроўшчына"прадоўжыцца на 4 кіламетры.

## ЗАВЯРШЭННЕ ТЫДНЯ

Перыяд веснавога палявання ў нашай краіне афіцыйна завяршыўся 12 мая, і цяпер паляўнічым застаецца чакаць першай суботы жніўня, калі ім зноў будзе дазволена расчахліць стрэльбы і выйсці на пошук вадаплаўнай і балотнай дзічыны.

## ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ

У многіх краінах свету даўно існуюць могілкі хатніх жывёл. Першыя і пакуль адзіныя могілкі хатніх любімцаў адкрыюцца ў Мінску гэтай восенню. Яны будуць размешчаны на тэрыторыі былога ваеннага палігона ў раёне вуліцы Аранскай за Мінскай кальцавой дарогай. Мяркуецца, што паслугі прадпрыемства "Тэрыторыя спакою" будуць каштаваць ад 20 еўра — усё залежыць, які канкрэтна помнік захочуць паставіць свайму любімаму сабаку, кату, пацуку ці папугаю гаспадары. Царква ўжо дала дазвол на стварэнне могілак для жывёл, адзіная ўмова — каб там не было адпявання і крыжоў.

ФЭСТЫ




# МЕСЦА СУСТРЭЧЫ — НЯЗМЕННАЕ

На пяць майскіх дзён Гомель стаў месцам "Славянскіх тэатральных сустрэч". Найноўшыя спектаклі ў адным з самых прыгожых гарадоў Беларусі разыгралі тэатральныя калектывы Украіны, Беларусі, Расіі (трэба адзначыць, што на беларускай зямлі менавіта Гомель, нязменнае месца правядзення "Славянскіх тэатральных сустрэч", у той час калі на Украіне — Чарнігаў, а ў Расіі — Бранск). Восьмы міжнародны тэатральны фэст сёлета падзейся намаганнямі Міністэрства культуры РБ, Гомельскімі абласнымі гарвыканкамамі, а таксама супрацоўнікамі Гомельскага абласнога драматычнага тэатра (хочацца выказаць падзяку дырэктару тэатра В. Рагоўскай, якая даглядала ўсіх удзельнікаў і гасцей фестывалю, як матухна Кураж сваіх дзяцей).

На VIII Міжнародным фестывалі "Славянскія тэатральныя сустрэчы" адметныя, больш цікавымі выглядалі беларускія тэатральныя калектывы. Прынамсі, лепшым спектаклем фэсту, па меркаванні журы, якое ўзначаліў рэктар Беларускай акадэміі мастацтваў, доктар мастацтвазнаўства Р. Смольскі, прызнана опера-фольк "Адвечная песня" Янкі Купалы ў рэжысуры С. Кавальчыка (Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі). Прызам за лепшую рэжысуру быў узнагароджаны вядомы беларускі рэжысёр Р. Талпаў за спектакль "Вечны Фама" У. Бутрамеева (прэм'ера Магілёўскага абласнога драмтэатра). І хаця творца падзякаваў журы за добры густ, на думку аглядальніка "ЛіМа", спектакль "Вечны Фама" мае шмат пастановачных недасканаласцей. Прызам за лепшую мужчынскую ролю журы адзначана адразу пяцёра акцёраў: В. Чэпелеў, А. Карткевіч ("Вечны Фама", Гомельскі абласны драмтэатр), Ю. Іцкоў ("Вертэп", Санкт-Пецярбургскі дзяржаўны тэатр сатыры на Васільеўскім), І. Камышаў ("Зязюліны слёзы", Бранскі абласны тэатр драмы імя А. К. Талстога), М. Шчапенка ("Цар Фёдар Іаанавіч", Маскоўскі тэатр рускай драмы "Камерная сцэна"). А вось сярод актрыс толькі тры сыгралі лепш за ўсіх: прызамі за лепшую жаночую ролю ўзнагароджаны М. Захарэвіч і Н. Гайда (спектакль "Я не пакіну цябе", Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Янкі Купалы), С. Акружная ("Кацярына Іванаўна", Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа). На жаль, сёлета сваіх пераможцаў не знайшлі прызы за лепшую сцэнаграфію і лепшы творчы дэбют.

Спецыяльны дыплом "За майстэрства імправізацыі" паехаў у Адэсу. Ім былі адзначаны акцёры Б. Смірноў і Ю. Неўгамонны, якія бліскуча разыгралі спектакль "Уваскрэшаны і злы" (Адэскае міжабласное аддзяленне СТД). Спецыяльным дыпломам "За вынаходлівае выкананне ролі" адзначаны акцёр Гомельскага абласнога драмтэатра А. Лаўрыновіч, які сыграў служку Гаўрылу ў "Вечным Фаме". Без узнагароды не засталася работа акцёраў Мазырскага драматычнага тэатра імя І. Мележа — спецыяльным дыпломам фестывалю адзначана актрыса А. Чыжык за ролю Ганны Чарнушкі ("Каханне Ганны Чарнушкі"). Спецыяльныя дыпломы фэсту будуць цяпер упрыгожваць і Жытомірскі музычна-драматычны тэатр імя І. Качаргі (спектакль "СватанНеСтэцька"), а таксама Бранскі абласны тэатр драмы імя А. К. Талстога (узнагароду атрымала актрыса М. Афінагенава).

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

ДАНІНА ПАМЯЦІ

# УЗГАДАЛІ МАЎРА

**У ДЗЯРЖАЎНЫМ** літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа 15 мая адбылася вечарына, звязаная са 120-й гадавінай з дня нараджэння дзіцячага пісьменніка Янкі Маўра. Утульны Коласаў дом вітаў сабраных у яго гасцёўні прыхільнікаў творчасці Я. Маўра. На тэматычнай выставе былі прадстаўлены кнігі пісьменніка, выдадзеныя ў розныя гады, фотаздымкі Янкі Маўра з сям'ёй і інш. Досыць вялікая зала не змясціла ўсіх, хто любіць творы Я. Маўра. Вёў вечарыну навуковы супрацоўнік музея І. Курбека. Прысутнічалі на ёй, займаючы ганаровыя месцы, дачка дзіцячага пісьменніка, кандыдат тэхнічных навук Н. Фёдарава, сын Якуба Коласа і зяць Я. Маўра, доктар тэхнічных навук М. Міцкевіч, іх дзеці Кастусь і Марыя Міцкевічы, дачка сына пісьменніка Л. Фёдарава з Масквы, літаратуразнаўца, даследчыца творчасці Я. Маўра дацэнт БДУ М. Яфімава, паэт М. Чарняўскі. Яны дзяліліся з гасцямі вечарыны сваімі самымі цёплымі ўспамінамі пра пісьменніка як чалавека. Пісьменнік, заслужаны дзеяч культуры Беларусі (як і Я. Маўр) А. Спесарэнка заўважыў, што спадчына Янкі Маўра ўсё яшчэ як след не ацэнена. Гучалі творы дзіцячага пісьменніка ў выкананні студэнцкай моладзі, класічная музыка, якую любіў Маўр. Пісьменнік быў ахарактарызаваны як пачынальнік фантастычнага і прыгодніцкага жанраў у беларускай літаратуры. Напрыканцы вечарыны ўнучка Янкі Маўра і Якуба Коласа Марыя Міцкевіч прадэманстравала малюнкі дзяцей — іх ілюстрацыі да твораў пісьменніка.

**Я.**

ВЕЧАРЫНЫ

***Падчас фестывалю "Мінская вясна" ў Вялікай зале Беларускай акадэміі музыкі адбылася вечарына, прысвечаная 60-годдзю кампазітара Рыгора СУРУСА.***

# МУЗЫКА І МАРА

Паводле слоў самога юбіляра, гэты аўтарскі канцэрт — вельмі важная і значная падзея ў жыцці кампазітара. Праграму падрыхтавалі два найвыдатнейшыя калектывы. Гэта лаўрэат шматлікіх міжнародных фестываляў і конкурсаў народная харавая капэла "Раніца" Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам В. Масленікава і Акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі (мастацкі кіраўнік А. Анісімаў), якім дырыжыраваў П. Вандзілоўскі.

У першым аддзяленні канцэрта ў выкананні харавой капэлы прагучалі дзве кантаты. "Фарбы дзяцінства" — вельмі вясёлая, прыемная і меладычная. "Шлюбная" больш сур'ёзная па драматургіі, адпаведна жанру. Адзначым, што калі кантата "Фарбы дзяцінства" ўжо раней гучала на канцэртах у філармоніі, на з'ездзе Саюза кампазітараў, дык "Шлюбная" кантата выконвалася ўпершыню.

Пасля антракту прагучалі два праграмныя канцэрты ў выкананні вядомага сімфанічнага аркестра Беларусі: "На Купалле" і "Калядзі — Раждзяство". Ужо самі назвы кажуць пра вобразны змест твораў, у якіх адлюстраваны спрадвечныя беларускія традыцыі і абрады: пошукі папараць-кветкі і шчасця — у канцэрце "На Купалле" і падзеі, якія адбываюцца ў святочныя зімовыя дні — у канцэрце "Каляды—Раждзяство".

Канечне ж, павіншаваць Рыгора Суруса — паважанага кампазітара і проста цудоўнага чалавека прыйшлі прадстаўнікі Педагагічнага універсітэта, БДУ культуры, сябры з Акадэміі музыкі, а галоўнае — усе прыхільнікі таленту майстра музыкі. Канцэрт прайшоў на высокім прафесійным узроўні, і было вельмі прыемна, што ў нашай краіне ёсць такія выдатныя таленавітыя людзі, якія так добра ведаюць нашу родную культуру і яе традыцыі, так самаддана раскрываюцца ў творчасці.

Сам Рыгор Фёдаравіч выказаў вялікую павагу і падзяку ўсім, хто дапамог у арганізацыі юбілейнага вечара: рэктару БАМ М. Казінцу, які прадаставіў канцэртную залу, першаму намесніку міністра культуры У. Рылатку і кіраўніку Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі А. Анісімаву, якія з вялікім энтузіязмам дапамаглі ў правядзенні аўтарскага канцэрта, ды інш.



Вядома, што Р. Сурус напісаў некалькі соцень твораў, сярод якіх 5 санат для фартэпіяна, харавыя канцэрты, шматлікія канцэрты для розных інструментаў. Колькі дасягненняў у кампазітара! Але ж, як паведаміў мне па сакрэце Рыгор Фёдаравіч, ёсць у яго творчая мара: пастаноўка балета "Кірмашовыя забавы", які быў напісаны 10 гадоў таму. У балеце сабраны самыя вядомыя беларускія героі: Несцерка, Лявон з Лявоніхай, чорт і, канечне ж, закаханыя — Юрась і Надзейка. Так што відовішча мае быць вельмі цікавае, вясёлае і прывабнае для гледача.

**Марыя КАСЦЮКЕВІЧ**

Фота А. МАЦЮША

# «РАСКІДАНАМУ ГНЯЗДУ» – 90

Сёлета спаўняецца 90 гадоў з дня напісання Янкам Купалам п'есы "Раскіданае гняздо". Гэта дата была адзначана цікавай імпрэзай, якая адбылася ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. У гасцінным Доме Купалы сабраліся вучні 19-й сярэдняй школы імя Янкі Купалы, вучні 21-й і 35-й сярэдніх школ г. Мінска.

Да мерапрыемства была прымеркавана выстаўка, экспанаты якой распавядалі пра гісторыю стварэння п'есы, яе сцэнічны лёс у розных тэатрах Беларусі і свету, пра акцёраў, што былі задзейнічаны ў "Раскіданым гняздзе".

Распачала мерапрыемства навуковы супрацоўнік музея Яўгенія Барсукова, якая прадставіла ўдзельнікаў і гасцей імпрэзы, расказала пра драматургію Янкі Купалы, акрэсліла значнасць п'есы "Раскіданае гняздо".

Адметнасць сустрэчы ў тым, што галоўнымі дзейнымі асобамі ў музеі былі вучні СШ № 19, што ўваходзяць у мастацка-літаратурны гуртох "Натхненне", кіраўніцай якога з'яўляецца настаўніца беларускай мовы і літаратуры Іна Шапкова. Юныя артысты Ігар Гарачаў (у ролі Данілкі), Насця Пухцеева (у ролі Марылі), Ірына Рэут (у ролі Зоські), Дзмітрый Аўраменка (у ролі Сцяпана) і Антон Аўраменка (у ролі Лявона) падрыхтавалі пастаноўку ўрыўка з драмы Янкі Купалы "Раскіданае гняздо".

Падчас мерапрыемства Іна Шапкова наладзіла жывое абмеркаванне вучнямі мінскіх школ сцэнічных вобразаў драмы, учынкаў галоўных герояў. У сваім выступленні Людміла Давідоўская, загадчыца навукова-асветніцкага аддзела, вызначыла актуальнасць праблемы "раскіданых гнёздаў" на Беларусі.

П'еса "Раскіданае гняздо" – аўтабіяграфічная. Але сваю сямейную трагедыю аўтар асэнсоўвае як трагедыю эпахальную, агульначалавечую, за якой стаяла пытанне – быць ці не быць беларускай нацыі. Драма "Раскіданае гняздо" адлюстроўвае доўгі шлях беларускага народа ў пошуках страчанай Бацькаўшчыны і лепшай долі. Значнасць п'есы сам паэт ахарактарызаваў так: "Я ўклаў у гэтую п'есу лепшае, што было ў маёй паэзіі і прозе".

Сустрэча паказала, што маладыя творцы неабыякава ставяцца да нацыянальнай гісторыі і культуры, памятаюць нашу мінуўшчыну і шануюць беларускую мову. З вялікім пачуццём патрыятызму Маша Раговіна прачытала верш Янкі Купалы "Спадчына". Былы вучань СШ №19 імя Янкі Купалы Жэня Колтун прысвяціў Песняру свой верш "Дзякую Купалу":

*Жыве Купала з намі й сёння*  
*У кнігах, ды і ў сэрцы з ім мы,*  
*І нават родная мне школа*  
*Купалы носіць імя.*

Ніхто не застаўся без падарункаў. Вучням мастацка-літаратурнага гуртка "Натхненне", а таксама ўсім удзельнікам мерапрыемства былі ўручаны памятныя сувеніры музея Янкі Купалы.

**Дзіяна КАВАЛЕВІЧ,**  
**старшы навуковы супрацоўнік музея Янкі Купалы**

***Фота Сяргея ЛУК'ЯНАВА***

*НА ЗДЫМКУ: Удзельнікі мерапрыемства, вучні мастацка-літаратурнага гуртка "Натхненне".*




# РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА» НАГАДВАЕ: ІДЗЕ ПАДПІСКА НА 2-ое ПАЎГОДДЗЕ 2003 ГОДА!

# «НЁМАН» ПРАПАНУЕ

**У другім паўгоддзі 2003 года ў "Нёмане" будзе завершана публікацыя рамана Міхаіла Герчыка "Оружие для убийцы", які апавядае аб нашым часе, аб вернасці і подласці, аб тым, як пагоня за нажывай калечыць чалавечыя душы. Сярод іншых буйных празаічных твораў "Нёман" прапануе аповесці на сучасныя тэмы рускамоўных беларускіх аўтараў: А. Галькевіча "Дети до шестнадцати", Ф. Конева "Страстей обитель", В. Маслюкова "Любовь коммерсанта", Ю. Фатнева "Неисторическая фамилия", Н. Казлова "Ночь без сновидений". У перакладзе з беларускай мовы плануецца надрукаваць аповесці Івана Шамякіна "Под сенью дворца", Лідзіі Арабей "Горькие ягоды", Валянціны Кадзетавай "Жертва". Апрача гэтага будуць прапанаваны лепшыя апавяданні і навелы як дэбютантаў, так і вядомых творцаў. Сярод апошніх — Васіль Ткачоў, Раіса Баравікова, Анатоль Крэйдзіч, Ніна Маеўская і інш.**

**Замежная проза будзе прадстаўлена вострасюжэтным трылерам Ф. Кліфарда "Отель Шелли" і апавяданнем І. Шоу "Игрок".**

**"Нёман" і надалей будзе актыўна прадстаўляць новыя імёны паэтаў, якія пішуць на рускай мове. З ліку вядомых паэтаў чытачы пазнаёмяцца з вершамі Яўгеніі Янішчыц, Юрася Свіркі, Уладзіміра Мазго, Казіміра Камейшы, Анатоля Аўруціна, Фёдара Яфімава, Міколы Бусько, Аляксандра Стрыгалёва, Тамары Мазур, Генадзя Аўласенкі...**

**Значную ўвагу рэдакцыя часопіса надае публіцыстыцы, пытанням гісторыі, культуры, навукі, адукацыі, мастацтва, эканомікі... Дарэчы, у сувязі з удасканальваннем ідэалагічнай работы ў грамадстве намі ўведзена новая рубрыка "Идеология. Общество. Государство". Сярод нашых аўтараў — дактары філасофскіх навук В. Акулаў і П. Карака, дактары філалагічных навук А. Жураўскі і А. Рагалёў, дактары гістарычных навук Л. Крыштаповіч, Л. Лыч, доктар фізіка-матэматычных навук В. Яравенка-Рытэр, іншыя навукоўцы, выкладчыкі ВНУ, пісьменнікі, дзяржаўныя і грамадскія дзеячы. Упэўнены, што з выключнай цікаўнасцю будуць прачытаны нататкі, эсэ В. Грышкаўца з цыкла "Бюро находак".**

**Не менш значная ўвага будзе нададзена літаратуразнаўчым і крытычным матэрыялам, творчым партрэтам вядомых пісьменнікаў. Сярод нашых аўтараў тут — дактары філалагічных навук Уладзімір Гніламёдаў, Васіль Жураўлёў, Вячаслаў Рагойша, Мікола Мішчанчук, вядомыя даследчыкі і пісьменнікі Міхась Кенька, Алесь Марціновіч, Георгій Юрчанка, Генадзь Кісялёў, Казімір Камейша, Яўген Каршукоў. І безумоўна, на старонках часопіса з'явяцца рэцэнзіі на новыя выданні, у тым ліку на кнігі Змітрака Марозава, Браніслава Спрынчана, Васіля Жуковіча, Віктара Гардзея, Івана Капыловіча і іншых пісьменнікаў.**

**А яшчэ ў кожным нумары часопіса рубрыка "Из почты журнала" будзе знаёміць з найбольш цікавымі допісамі чытачоў, якія ўздымаюць самыя розныя пытанні і праблемы нашай рэчаіснасці.**

**Міхась ПАЗНЯКОЎ,**  
**намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Нёман"**

Шаноўныя чытачы! Пачалася падпіска на другое паўгоддзе 2003 года. На выданні Рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва" можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні нашай краіны. Кошты засталіся тымі ж, што і былі ў першым паўгоддзі. Для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь адкрыта льготная падпіска.

**"Літаратура і мастацтва"**

Індывідуальная (індэкс — 63856)  
**на 1 месяц — 2500 руб.**  
**на 3 месяцы — 7500 руб.**  
**на 6 месяцаў — 15000 руб.**  
**Ведамасная (індэкс — 63857)**  
**на 1 месяц — 4000 руб.**  
**на 3 месяцы — 12000 руб.**  
**на 6 месяцаў —24000 руб.**  
Ведамасная льготная (індэкс — 63880)  
на 6 месяцаў — 16800 руб.

**"Полымя"**

Індывідуальная (індэкс — 74985  
**на 1 месяц — 2500 руб.**  
**на 3 месяцы — 7500 руб.**  
**на 6 месяцаў — 15000 руб.**  
Ведамасная (індэкс — 00141)  
**на 1 месяц — 3500 руб.**  
**на 3 месяцы — 10500 руб.**  
**на 6 месяцаў — 21000 руб.**  
Ведамасная льготная (індэкс — 00727)  
на 6 месяцаў — 16800 руб.

**"Маладосць"**

Індывідуальная (індэкс — 74957)  
**на 1 месяц — 2600 руб.**  
**на 3 месяцы — 7800 руб.**  
**на 6 месяцаў — 15600 руб.**  
Ведамасная (індэкс — 00137)  
**на 1 месяц — 3800 руб.**  
**на 3 месяцы — 11400 руб.**  
**на 6 месяцаў — 22800 руб.**  
Ведамасная льготная (індэкс — 00731)  
на 6 месяцаў — 16800 руб.

**"Крыніца"**

Індывідуальная (індэкс — 74824)  
**на 1 месяц — 2500 руб.**  
**на 3 месяцы — 7500 руб.**  
**на 6 месяцаў — 15000 руб.**  
Ведамасная (індэкс — 74940)  
**на 1 месяц — 3500 руб.**  
**на 3 месяцы — 10500 руб.**  
**на 6 месяцаў — 21000 руб.**  
Ведамасная льготная (індэкс — 00730)  
на 6 месяцаў — 16800 руб.

**"Нёман"**

Індывідуальная (індэкс — 74968)  
**на 1 месяц — 2500 руб.**  
**на 3 месяцы — 7500 руб.**  
**на 6 месяцаў — 15000 руб.**  
**Ведамасная (індэкс — 00238)**  
**на 1 месяц — 3500 руб.**  
**на 3 месяцы — 10500 руб.**  
**на 6 месяцаў — 21000 руб**  
Ведамасная льготная (індэкс — 00728)  
на 6 месяцаў — 16800 руб.

**"Всемирная литература"**

Індывідуальная (індэкс — 74863)  
на 1 месяц — 2500 руб.  
на 3 месяцы — 7500 руб.  
на 6 месяцаў — 15000 руб.  
Ведамасная (індэкс — 00135)  
**на 1 месяц — 3500 руб.**  
**на 3 месяцы — 10500 руб.**  
**на 6 месяцаў — 21000 руб**  
Ведамасная льготная (індэкс — 00729)  
на 6 месяцаў — 16800 руб.

# УЗНАГАРОДА ЗЕМЛЯКУ

***У Маскве, у "народнай галерэі" на Марасейцы, прайшла выстава работ выпускнікоў і навучэнцаў Маскоўскага завочнага народнага універсітэта мастацтваў.***

**Палотны нашага земляка з Брэстчыны Васіля ЮШКАЎЦА (выпускніка гэтай установы 1991 года) прызначаны аднымі з лепшых і былі адзначаны спецыяльным дыпломам Міністэрства культуры Расійскай Федэрацыі. Як выказаліся эксперты, яго сюррэалістычныя карціны з прыкметнымі элементамі сімвалізму прымушаюць гледача задумацца над сэнсам чалавечага быцця.**



**Васіль Юшкавец экспанаваў тры аўтарскія палотны: "Ян-хрысціцель", "Уява" і "Тэтраморф". Мяркуючы па запісах у кнізе водгукаў, наведвальнікаў найбольш уразіла першая з іх. Яе біблейскі сюжэт з элементамі гіперрэалізму схіляе да роздуму пра неабходнасць немалых чалавечых высілкаў, каб зберагчы веру і непарушнасць хрысціянскай маралі ў сённяшні складаны час.**



**Мастак атрымаў шмат замоў на палотны ад свецкіх і духоўных устаноў Расіі.**

**Мікола ПТУХА**

*НА ЗДЫМКАХ: "Ян-хрысціцель"; дырэктар МЗНУ мастацтваў Вольга ЦІШЧАНКА, дырэктар "Народнай галерэі" Ігар ВОЎК і мастак Васіль ЮШКАВЕЦ.*

**Фота аўтара**



# ШЛЯХ ДА БЕЗДУХОЎНАСЦІ

***Няма вялікай патрэбы, здавалася б, у тым, каб падымаць сёння пытанне пра актуалізацыю вывучэння літаратуры ў школе, біць, як кажуць, у званы, паколькі яе асаблівае значэнне, выключная эстэтычная і маральна-гуманістычная роля ў выхаванні асобы выдатна рэпрэзентавана ў "Канцэпцыі рэфармавання літаратурнай адукацыі" (1996), якая выдадзена пад навуковай рэдакцыяй акадэмікаў М. Лазарука і В. Івашына. У "Канцэпцыі рэформы агульнаадукацыйнай школы ў Рэспубліцы Беларусь" (1996) і "Канцэпцыі развіцця педагагічнай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь" (2000) таксама падкрэслена светапоглядна-выхаваўчая і культурацэнтрычная накіраванасць адукацыі на сучасным этапе, якая павінна грунтавацца на трывалай сістэме духоўна-маральных каштоўнасцяў.***

Літаратура – аснова культуры, духоўнасці, фармавання нацыянальнай ментальнасці, яна захавальніца народнай памяці, гуманных традыцый, сродак, які садзейнічае станаўленню асобы з пэўнымі поглядамі і будучымі ўчынкамі. Адзін з сучасных педагагоў справядліва адзначае, што "без этнічнай памяці няма традыцый, без традыцый – культуры, без культуры – духоўнасці, без духоўнасці – выхавання, без выхавання – асобы, а без асобы – кансалідаванага грамадства, здольнага вытрымаць любыя павароты гісторыі" (В. Протчанка. "Актуальныя праблемы тэорыі і практыкі навучання беларускай мове". Мн., 2001).

Дзеля чаго ўведзена літаратура ў школу як асобны прадмет? Думаецца, гаварыць тут доўга не трэба, і так усё добра зразумела адукаванаму чалавеку. Бо канчатковая мэта літаратурнага навучання, і гэта адзначалі многія педагогі, акурат і заключаецца ў тым, каб узняць духоўнае, інтэлектуальнае і маральнае развіццё чалавека на адпаведны ўзровень. Сфарміраваць асобу, яе культуру, грамадзянскія і этычныя перакананні немагчыма без вылучэння ў сістэме навучання прыярытэтнай ролі філалагічнай і – шырэй – гуманітарнай адукацыі. Яшчэ класік айчыннай методыкі Якуб Колас даводзіў, што навучанне літаратурнаму чытанню і пісьму на роднай мове "робіцца крыніцай новых і глыбокіх выхавальных уплываў на ўвесь псіхічны склад вучня" ("Методыка роднае мовы"). І гэтыя выхаваўчыя ўплывы, безумоўна, не павінны слабець, а, наадварот, узмацняцца, пашырацца, угрунтоўвацца, каб у рэшце рэшт праз пераўтварэнне і ўзбагачэнне ўнутранага свету асобнага чалавека змяніць, перайначыць жыццё людской супольнасці да лепшага. Спашлюся на яшчэ адзін вялікі аўтарытэт – на меркаванне акадэміка Д. Ліхачова. Ён неаднойчы гаварыў, нават пастаянна нагадваў пра значны развіццёвы патэнцыял, які ўтрымлівае мастацкая літаратура, адзначаў яе выключны пазнавальна-выхаваўчы змест: "Літаратура дае вам каласальны, найвялікшы і надзвычай глыбокі вопыт жыцця. Яна робіць чалавека інтэлігентным, развівае ў ім не толькі пачуццё прыгажосці, але і разуменне,– разуменне жыцця, усіх яго складанасцяў, служыць вам правадніком у іншыя эпохі і да іншых народаў, раскрывае перад вамі сэрцы людзей,– адным словам, робіць вас мудрым. Але ўсё гэта даецца вам толькі тады, калі вы чытаеце..." (кніга "Земля родная").

Дык, здавалася б, наўрад ці хто дадумаецца неяк правесці рэвізію і памяняць падыходы да літаратуры і што датычыцца яе вывучэння ў школе. Аднак падставы для трывогі з'явіліся сур'ёзныя, і ігнараваць іх далей проста нельга. Чашу цярплівасці і талерантнасці перапоўніў апублікаваны ў новым часопісе "Веснік адукацыі" (2003, № 1-2) "Тыпавы вучэбны план базавай агульнаадукацыйнай школы". Пакуль што гэта праект, але ён нясе ў сабе "рэвалюцыйную перабудову", ці, кажучы мовай сённяшніх рэфарматараў, рэструктураваны ў чарговы раз – перагледжаны пазіцыі і падыходы. Вынік: беларуская і руская літаратуры як самастойныя, аўтаномныя прадметы проста зніклі, яны аб'яднаны з мовай: "Изучение белорусского языка и белорусской литературы представлено одним предметом "Белорусский язык и литература", русского языка и русской литературы – предметом "Русский язык и литература" (С. 7) (вылучана мной. – **А. Б.**).

Дзеля чаго праведзена гэтая інтэграцыя? Такім чынам нібыта рацыяналізуецца навучальны працэс: змяншаецца колькасць прадметаў і ліквідуецца перанагрузка вучняў. Аднак розныя канцэптуальныя асновы гэтых навучальных дысцыплін, таму прапанаваная тыпалогія адвольная, прыдуманая з пазіцый чыноўніцкага прагматызму. Ставячы літару "і", распрацоўшчыкі плана, відаць, не разважылі як след, ад чаго яны разгружаюць дзяцей, не падумалі, як гэтае аб'яднанне адаб'ецца на статусе і прэстыжы літаратуры ў школе. З такім жа поспехам можна было б інтэграваць у адзін прадмет матэматыку і інфарматыку і зменшыць пры гэтым колькасць гадзін на вывучэнне. Аднак прадметацэнтрычны падыход у выпадку з матэматыкай не падлягае крытыцы: маўляў, у будучым сур'ёзна пацерпіць навукова-тэхнічны прагрэс, і таму мы, па словах аднаго з сучасных тэхнакратаў, "будзем хадзіць босыя ці ў лапцях".

Да лапцей мы наўрад ці ўжо вернемся. Але вось тое, што звужаецца значэнне літаратуры як настаўніцы жыцця, як захавальніцы агульначалавечых каштоўнасцяў, як эфектыўнага сродку гуманізацыі чалавека і грамадства, факт, на мой погляд, відавочны.




Літаратура ў параўнанні з матэматыкай (на вывучэнне гэтых прадметаў адводзіцца адпаведна 2 і 5 або 4 гадзіны на тыдзень), аказалася ў нероўных умовах, яе выціскаюць на задні рубеж. У "Тлумачэннях да праекта Тыпавога вучэбнага плана..." вылучана іншая дамінанта, гуманітарызацыя ў XXI стагоддзі наўрад ці ўжо ўсведамляецца як покліч жыцця, часу, гісторыі: "В структуре Типового учебного плана базовой десятилетней школы усилено (по объёму содержания и количеству часов) изучение предметов естественно-математического цикла и установлено оптимальное соотношение социально-гуманитарных и естественно-математических предметов (адекватно мировой образовательной практике)" ("Веснік адукацыі". 2003, № 1-2. С. 8).

Перш – пра вопыт нацыянальнай школы, традыцыі, якія закладваліся даўным-даўно. У 20-я гады нацыянальная літаратура вельмі шырока вывучалася ў школах Беларусі. Па словах акадэміка В. Івашына, у 30-я гады ён грунтоўна вывучаў беларускую літаратуру, калі вучыўся ў Мінскім транспартна-эканамічным тэхнікуме. Замежным вопытам цікавіліся не толькі чыноўнікі, якія нібыта раўняюцца на сусветныя адукацыйныя стандарты, але і многія іншыя беларускія навукоўцы, педагогі, літаратары. Зацытую артыкул А. Лойкі "Навука навук – філалогія", які ў свой час друкаваўся ў "ЛіМе":

«...Рост прамысловай вытворчасці ў развітых краінах свету напрамую залежыць менавіта ад росту гуманітарнага патэнцыялу людзей, занятых у сферы вытворчасці. У ЗША зараз на шэрагу прадпрыемстваў толькі 20% у кіраўніцтве займаюць інжынеры, а 80% сярод управленцаў – людзі гуманітарных прафесій. Тое ж – на прадпрыемствах Японіі. А прафесійная падрыхтоўка інжынерных кадраў у многіх краінах Захаду ўжо даўно прадугледжвае двухгадовую вышэйшага профілю базавую філалагічную падрыхтоўку,– іншымі словамі, два гады інжынер вывучае філфакаўскія прадметы, перш чым брацца за асваенне сакрэтаў інжынернай прафесіі. Відаць, у гэтым і ёсць на сёння рэальная мерка ўвагі сучаснага цывілізаванага свету да гуманітарных навук" (кніга "Галгофа". Мн., 2001).

Відаць, у замежжы кіруюцца не прадметацэнтрычнымі ўяўленнямі, а ідуць ад усведамлення культуратворчай і нацыяахоўнай ролі філалогіі, літаратуры, у прыватнасці, у сучасным зменлівым свеце. Адукацыя праз усё жыццё не ўяўляецца без трывалых базавых гуманітарных асноў. А, уласна кажучы, ці не варта было належным чынам вывучыць грамадскую думку – бацькоў, настаўніцтва, акадэмічных вучоных, псіхолагаў-практыкаў, культуролагаў, пісьменніцкай грамады і іншых зацікаўленых людзей наконт таго, якой павінна быць раскладка прадметаў і гадзін на іх вывучэнне. Многія спецыялісты і нават неспецыялісты-бацькі, думаецца, скажуць пра тое, што пераважная большасць дзяцей мае гуманітарны склад мыслення, не прымуць засілле матэматыкі ў навучальным працэсе базавай школы. Плачуць дзеці, а з імі і бацькі, бо, як спявалася ў папулярнай песеньцы, "кандидат наук и тот над задачей плачет». Неабходна, думаецца, рэалізоўваць сістэму рознаўзроўневага, індывідуальна арыентаванага навучання. Варта вылучаць матэматычна адораных дзяцей у асобныя групы і плыні, ствараць для іх умовы па паглыбленым засваенні матэрыялу, на заключнай ступені навучання даць магчымасць ліцэйскай дапрофільнай падрыхтоўкі. Гэтакі прадуктыўны шлях прапаноўвалі вучоныя-педагогі яшчэ ў 20-я гг. (спашлюся хаця б на працы прафесара педагогікі Ф. А. Бельскага "Арганізацыя школ для адораных дзяцей", "Арганізацыя школ для звышадораных дзяцей"). Магчыма, я памыляюся, але загрузка матэматыкай пад завязку асноўную масу школьніцтва ні да чаго добрага не прывядзе. Няўжо нам трэба людзі-камп'ютэры і робаты? Няўжо нам трэба траўміраваць псіхіку няздольных да матэматыкі шматлікіх дзяцей? Зрэшты, усё высветліць час, а ён, як мы памятаем, строгі суддзя.

Другая адмоўная тэндэнцыя ў галіне школьнага літаратурнага навучання – пастаяннае скарачэнне адукацыйнага часу. І так цягам цэлых дзесяцігоддзяў. У 2002–2003 навучальным годзе па загадзе міністра адукацыі скарочана 30% гадзін на вывучэнне беларускай літаратуры, адпаведна "перапалапачваліся" і ўшчыльняліся праграмы. У параўнанні з Праграмай 1955–1956 гадоў, нацыянальная літаратура ў школе пачатку XXI стагоддзя зведзена да сціплага мінімуму, нават скупога ліміту – так, у VIII і наступных класах скарачэнне адбылося з 198 да 72 гадзін (2002 г.). Выключэнне – так званыя профільныя класы з паглыбленым вывучэннем літаратуры, дзе часу на знаёмства з творчасцю беларускіх пісьменнікаў адведзена крыху больш, аднак такіх класаў у Беларусі да скарэднага малы працэнт. Крызісны стан з вывучэннем літаратуры ў сучаснай школе найперш адчуваюць настаўнікі, вось адзін з загалоўкаў у "Настаўніцкай газеце": "Літаратура ў школе не патрэбна?!: Ці можна выхаваць прыгожае, добрае, вечнае, скарачаючы ўрокі славеснасці?" (2003, 1 сак. с. 2).

У той жа час паэтку Р. Баравікову займае пытанне пра суадносіны гадзін на класіку і сучасную літаратуру, і яна таксама са старонак "Настаўніцкай газеты" прапаноўвае: "Напрыклад, можна ўвесці асобным прадметам гісторыю літаратуры і асобным – сучасную літаратуру" (2003, 15 крас. с. 8). Не пярэчу: варта абмеркаваць, каго, як і якія творы сучасных аўтараў трэба ўключаць у школьныя праграмы. Але ж

яно не такое актуальнае ў параўнанні з тым, што сёння трэба зрабіць пісьменнікам і педагагічнай грамадскасці, каб літаратура заняла "свой пачэсны пасад" сярод школьных прадметаў. Пры несупынных скарачэннях хіба можна выкраіць належную колькасць гадзін на знаёмства з жыццём і творчасцю нашых выдатных пісьменнікаў-сучаснікаў Я. Брыля, І. Шамякіна, В. Быкава, І. Навуменкі?! Цяжка знайсці лішнюю гадзіну на разгляд твораў І. Мележа, А. Куляшова, М. Танка, У. Караткевіча, П. Панчанкі, І. Чыгрынава... Вядома, хацелася б яшчэ, каб у настаўніка былі ўрокі, прысвечаныя сучаснай літаратуры, і ён прыйшоў у клас з "Полымем", "Маладосцю", "ЛіМам"... Але ж дзе ўзяць гадзіны, калі іх катастрафічна не хапае? Я ўжо не кажу пра сусветны літаратурны кантэкст, які ў старэйшых класах фактычна згорнуты. Славутыя творы замежных аўтараў даюць магчымасць для параўнальнага вывучэння літаратур, зблізкаюць маладога чалавека з іншымі народамі і культурамі, у выніку ён атрымоўвае ключ да разумення мастацкіх каштоўнасцяў чалавецтва. Далейшая эканомія на літаратуры ў школе (але куды ўжо далей яе герметызаваць!) можа прывесці да таго, што ў падручніках застанецца творчасць некалькіх класікаў. Згадваюцца купалаўскія радкі – і не толькі дзеля таго, каб гіпербалізаваць сітуацыю, а засведчыць яе сапраўдны драматызм: "...А беларусы нікога ж не маюць, // Няхай жа хоць будзе Янка Купала" ("Я не паэта").

Калісьці сусветна вядомы мысляр сказаў, што калі чалавек перастае чытаць – ён перастае думаць (Д. Дзідро). Педагог, кандыдат мастацтвазнаўства Таццяна Катовіч на практыцы пераканалася ў тым, да чаго вядзе спад у мастацка-эстэтычным выхаванні сучасных падлеткаў і моладзі: "У асяроддзі сваіх вучняў, студэнтаў і гімназістаў задумваюся наконт такой "дробязі", як беднасць уяўлення. А гэта на самай справе варта спачування: жыццё дастаткова кароткае, каб пражыць яго нездавальняюча сумна і шэра..." (Наст. газета. 2003, 17 крас. с. 8). Сёння на нашых вачах у вучняў знікае матывацыя да чытання, мяняюцца інтарэсы і зацікаўленні дзяцей. Аўтар "Настаўніцкай газеты" Людміла Барташэвіч прааналізавала змест выданняў "Каламбур" і "Адзін дома", дзе друкуюцца гульні, якія ніякім чынам не развіваюць інтэлект і не стымулююць добрых пачуццяў, на старонках гэтых выданняў сустракаецца лексіка тыпу "хавка", "жратва", "мочиловка». Л. Барташэвіч задае трывожнае пытанне: «Калі гэта чытаюць «прыгожыя і разумныя», дык што чытаюць астатнія?» І робіць абсалютна слушную выснову: «Мы здзіўляемся хамскім паводзінам, прымітыўным жартам, спажывецкаму стаўленню да жыцця нашых дзяцей. Дзеці не вінаватыя. Мы, дарослыя, фарміруем іх культуру і светапогляд» (2003, 24 крас. с. 2).

Сучасная тэлепрадукцыя тыпу баевікоў, фільмаў жахаў, блокбастэраў, крымінальных і эратычных трылераў ракой лінулася на бедныя дзіцячыя галовы.

Злым і разбуральным інстынктам трэба супрацьпаставіць красу слова, красу думак і пачуццяў. Крымінальная хроніка на старонках беларускай перыёдыкі палохае паведамленнямі пра злачынствы дзяцей: хуліганскія выхадкі, крадзяжы, рабаўніцтва, забойствы... Ахвярамі разбою і нападу становяцца раўнагодкі і дарослыя людзі. Прыкрымі, ганебнымі фактамі нашай сучаснасці стала збіццё славутых у краіне дзеячаў навукі – акадэміка Радзіма Гарэцкага і прафесара Адама Мальдзіса. Агрэсія, жах і страх, такім чынам, пакрысе запаўняюць Беларусь. І не бачыць гэтага можа толькі сляпы.

Першыя, хто востра адчуў наступ негатыву ў сацыяльным і духоўным жыцці грамадства, сталі нашы беларускія літаратары, мастакі, акторы, вучоныя і настаўнікі. Інтэлігенцыя не толькі крытычна рэагуе на сучасную рэчаіснасць, але і прапануе рэцэпты духоўнага выжывання, актуалізуе важнасць гуманізацыі нашага супольнага жыцця. Іначай – катастрофа, духоўны тупік. У аповесцях "Крывінка", "Падзенне", "Без пакаяння" і іншых творах народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін паказвае ўсю жахлівую праўду расчалавечвання, ён справядліва гаворыць, што сёння ў маладым чалавеку можа лёгка заснуць ці знікнуць сумленне, бо ён не мае ахоўнага маральнага імунітэту. У адным з твораў вуснамі сваёй гераіні пісьменнік імкнецца давесці, што "думаць трэба... пра душу" ("Маладосць". 1996, № 1). Празаік Анатоль Казлоў лічыць, што "ў нашым грамадстве фарміруецца тып чалавека заходняй маралі. Запознена, хваравіта, з пэўнымі мутацыямі, але нараджаецца беларус-акула. І трэба, па вялікім рахунку, ужо даўно адправіць у архівы гісторыі лозунг "Чалавек чалавеку – брат, сябар і аднадумца". Цяпер распаўсюджваецца дыяметральна процілеглае выслоўе, якое мы цудоўна памятаем яшчэ з лаціны" (Нёман. 2003, № 3). Беларускае пісьменніцтва і гуманітарная інтэлігенцыя небеспадстаўна хвалюецца пра наш дзень сённяшні і нашу супольную будучыню: калі мы хочам шырока адрадзіць і захаваць агульначалавечыя духоўныя ідэалы, то павінны ў першую чаргу прапаведаваць у грамадстве ідэалогію высокай маральнасці і гуманізму. І ў першую чаргу праз школу і ВНУ, на ўроках і лекцыях па літаратуры. У школе, апрача літаратуры, па сутнасці больш няма прадмета, які быў бы скіраваны да душы вучня. Зрэшты, на стварэнне нацыянальнай дзяржаўнай ідэалогіі і выхаванне маладога пакалення скіраваны намаганні сённяшняй улады.

Выхаванне асобы, яе ўсебаковае развіццё немагчымы без культуры, літаратуры і мастацтва, паколькі гэтыя прадметы абуджаюць унутраныя стымулы да грамадзянскага сталення, пераўтвараюць асобу, закладваюць яе духоўна-маральныя асновы. Гэтае ўсведамленне значнасці літаратурна-мастацкага і эстэтычнага навучання і выхавання (інакш кажучы, гуманітарнага, гуманізаванага) прысутнічае ў шматлікіх выказваннях на старонках педагагічных і грамадска-палітычных выданняў. Спашлюся на некаторыя з іх: "Трэба ўразумець, што пытанне літаратуры ў школе – гэта пытанне не толькі і нават не столькі літаратуры, колькі пытанне пра будучыню нашага грамадства наогул. Бо якіх дзяцей мы выхаваем сёння, такім наша грамадства будзе праз дзесяць–дваццаць–трыццаць гадоў. А якое ж выхаванне без літаратуры?!" (пісьменніца Р. Баравікова. "Наст. газ.". 2003, 15 крас.); "...Выкладанне літаратуры ў школе павінна быць узведзена ў ранг вядучай, вызначальнай з'явы школьнага жыцця... Вядучай якасцю духу, з якой зыходзіць і да якой імкнецца філасофія спасціжэння літаратуры ў школе, з'яўляецца сумленне... Няма сумлення – няма асобы. А без асобы няма цывілізацыі" (літаратуразнаўца і педагог з Брэста Ю. Паталкоў. "Наст. газ.". 2003, 6 лют.); "Што асабіста мяне, настаўніцу беларускай мовы і літаратуры, хвалюе, дык гэта тое, што, пачынаючы ўжо з чацвёртага класа, скарачаюцца ўрокі славеснасці. Увогуле абурае такое скарачэнне часу на выкладанне літаратуры ў школе. Такая шкодная тэндэнцыя "разгрузкі" дзяцей за кошт гэтага школьнага прадмета будзе стрымліваць развіццё іх кругагляду, перашкаджаць больш глыбокаму пранікненню ў разнастайныя сферы жыцця. А ўсё гэта прывядзе да духоўнага вакууму. І чым ён будзе запаўняцца? "(настаўніца з Асіповіцкага раёна В. Ярмоленка. "Наст. газ.". 2003, 1 сак.).

Прыклады ўсхваляваных, занепакоеных меркаванняў пра месца і ролю літаратуры (і не толькі, вядома, беларускай) у сістэме школьнага навучання можна доўжыць. Нагадаю хіба яшчэ яркае выступленне вядомага метадыста, педагога, аўтара шматлікіх навучаль ных кніг, дацэнта БДПУ імя Максіма Танка Я. Перавознай на сустрэчы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з аўтарамі падручнікаў па гісторыі і літаратуры, якая адбылася ў красавіку 2002 года. Шаноўная Яўгенія Васільеўна, гаворачы пра надзённыя праблемы літаратурнай адукацыі ў школе, акцэнтавала ўвагу на вялікім патрыятычна-выхаваўчым патэнцыяле мастацтва слова, яна нагадала, што адным з галоўных фактараў у Вялікай Перамозе над фашызмам была названа літаратура. Яе меркаванне пра першапрыярытэтнасць літаратуры ў школе прагучала вельмі аргументавана і пераканальна. Згортваючы літаратуру як навучальны прадмет у сярэдняй школе, наўрад ці мы здолеем ўратаваць дзіцячую душу ад бездухоўнасці, разбурэння, заражэння яе рознымі шкоднымі вірусамі. Школьнікаў – і гэта не сакрэт – трэба часам лячыць і ацаляць словам, засцерагаць ад злачынных намераў, амаральных учынкаў. Літаратура, вядома, не панацэя ад усіх хваробаў, але яна здольная ўплываць на фармаванне свядомасна-каштоўнасных арыентацый і маральны выбар чалавека. Паўтаруся, але зазначу ў чарговы раз: літаратура як чалавеказнаўства мае велізарны выхаваўчы патэнцыял. І гэта ісціна, якая, відаць, не патрабуе вялікіх, разгорнутых доказаў.

З 1933 года экзамен па беларускай літаратуры быў уведзены ў школе як абавязковы. Цяпер ён ліквідаваны, але высокія чыноўнікі з Міністэрства адукацыі з перакананасцю даводзяць, што "ёсць экзамен ці няма – гэта не ўплывае на матывацыю да вучобы" ("Чырв. змена". 2003, 25 красав. С. 3). Яшчэ як уплывае, асабліва што тычыцца літаратуры. І пра гэта даводзіцца чуць ад многіх настаўнікаў-беларусазнаўцаў, якія гавораць, што пачынаюць адчуваць сябе ізгоямі ў школе. На адной з нарад у НМЦэнтры вучэбнай кнігі яны прасілі аўтараў падручнікаў, навукоўцаў, у тым ліку і мяне, на той час загадчыка лабараторыі літаратурнай адукацыі Нацыянальнага інстытута адукацыі, што-небудзь рабіць, каб памяняць стаўленне да беларускай мовы і літаратуры ў сярэдняй школе. Адчуваў сваю няёмкасць і прыкрасць ад бездапаможнасці, паколькі многія набалелыя пытанні тычыліся не столькі мяне, колькі сённяшніх рэфарматараў школы.

Адкажыце, калі ласка, на якім яшчэ экзамене, як не на экзамене па літаратуры, вучань зможа раскрыць душу, захоплена прачытаць верш, не толькі прадэманстраваць веды, але і прэзентаваць сябе, свае чалавечыя якасці, выявіць патрыятызм, грамадзянскасць, культуру мыслення, эстэтычны густ.

У нашых блізкіх суседзяў таксама назіраецца тэндэнцыя да абнаўлення, перагляду (рэструктурызацыі) зместу адукацыі, але ні ў Расіі, ні на Украіне, ні ў Польшчы, ні ў Літве так не абкрадаюць літаратуру ў школе, не спяшаюць зрабіць непрыстыжнай і неперспектыўнай філолага-гуманітарную адукацыю.

Радыкалізацыя да літаратуры як школьнага прадмета, безумоўна, патрэбная, але не дзеля таго, каб упаў яе статус, каб размыць базавы грунт адукацыі і выхавання. Многае, што сёння тычыцца літаратуры ў школе – і тут я пагаджаюся з пісьменніцай Р. Баравіковай – вымагае шырокага абмену думкамі на "круглых сталах", нарадах, канферэнцыях. Адміністрыраванне і рэгламентацыя, думаецца, дрэнны дарадчык. А, што грэх утойваць, у адукацыйнай сферы сёння часам прымаюцца хуткаспелыя рашэнні, праяўляецца келейнасць, – і гэта добра адчувае наша грамадскасць, якая справядліва крытыкуе школьную рэформу за многія пралікі і сур'ёзныя выдаткі, звязаныя з дзесяцібальнай сістэмай ацэнкі, масавым закрыццём пачатковых школ, рэзкім змяншэннем колькасці дзяцей, што вучацца на роднай мове і інш. Выклікаюць трывогу неабдуманыя, карпаратыўныя падыходы і ў дачыненні да літаратурнай адукацыі. Так, на адкрытым конкурсе на лепшы падручнік для старэйшых класаў фактычна па колькасці набраных балаў перамаглі навучальныя кнігі акадэмікаў М. Лазарука і В. Івашына "Беларуская літаратура, X клас" (54,4 бала з 72 магчымых) і "Беларуская літаратура, XI клас" (аўтары Дз. Бугаёў, М. Тычына, М. Мішчанчук і інш.) (49,9 з 72 магчымых балаў). Па гэтых падручніках займаецца 80% школ Беларусі, ім аддалі перавагу самі настаўнікі. Аднак у выніку арганізаванага немаведама для чаго таемна-таямнічага галасавання "перамога" прысуджана аўтарам падручнікаў і паралельнай праграмы з Брэста, па якой працуе каля 20% навучальных устаноў. Такім хітрым, "віртуозным" спосабам "выбіты" падручнікі непажаданых канкурэнтаў, каб пакінуць адну паралель у школе і адрапартаваць наверсе пра сэканомленыя фінансы.

Заслугоўвае абмеркавання ідэя інтэграванага курса "Литература и искусство», прапанаваная ліцэем БДУ для трэцяй ступені навучання (ліцэйскія класы) ("Наст. газ.". 2001, 29 лістап. с. 3). Калі ісці ад назвы, то такі курс больш падыходзіць да мастацтвазнаўчага ліцэя ці гімназіі. Зыходзячы з назвы, гэта павінен быць курс шырокага культуралагічна-пазнавальнага, беларусазнаўчага дыяпазону: апрача літаратуры, на ўроках павінна адбывацца знаёмства з творамі жывапісу, музыкі (і, відаць, у цеснай суаднесенасці з мастацтвам слова), вывучацца гісторыя тэатра, кіно... А якое месца ў гэтым курсе павінна займаць нацыянальная літаратура? Ці ва ўсіх выпадках мы павінны адмаўляцца ад прынцыпу гістарызму пры вывучэнні літаратуры? Апрача мадэлюючага, ірацыянальнага тыпу мыслення, што яшчэ трэба сфармаваць у душы і свядомасці вучня, каб ён стаў паўнавартасным грамадзянінам Беларусі, яе патрыётам, носьбітам высокай маралі і культуры? Многае не прапісана ў канцэпцыі гэтага курса, адсюль і пастаўленыя мною пытанні (будзем спадзявацца, разгарнуць свае падыходы аўтарам не дазволіла газетная плошча). Часам праекціроўшчыкі і вучоныя-метадысты ў сферы адукацыі ідуць значна далей. Так, у Нацыянальным інстытуце адукацыі быў створаны інтэграваны курс беларускай, рускай і сусветнай літаратуры, пабудова і змест якога выклікаюць яшчэ больш пытанняў. Хіба не вымагае калегіяльнага разгляду пытанне пра месца і ролю літаратуры на трэцяй ступені навучання (ліцэйскія класы)? Баюся, што і тут будзе штосьці перастуктуроўвацца, скарачацца за кошт літаратуры і іншых гуманітарных прадметаў.

Перабудова школьнай адукацыі, думаецца, павінна ісці без рэзкіх перагібаў і ломкі асноватворных традыцый, у разумных межах, без напалу канфрантацыі. Рэформа на сучасным этапе вымагае сур'ёзнай аналітыкі, узважаных, прадуманых і далёка пралічаных крокаў. І гэта ў першую чаргу тычыцца літаратурнай і моўнай адукацыі. Памятаю, як пасля сустрэчы аўтараў падручнікаў з Прэзідэнтам многія былі акрылены, было вялікае жаданне працаваць... Можа, сёння і надышла пара рапартаваць пра поспехі школьнай рэформы, але за рапартамі не схаваеш ад грамадскасці відавочнае, праўду. Падводзячы рэзюме, зноў задаю пытанне, хай сабе ў чымсьці і рытарычнае: як без актуалізацыі літаратурнага навучання, гуманітарызацыі і гуманізацыі свядомасці магчыма павялічыць творчы і культурна-духоўны патэнцыял нацыі?! Літаратура ў школе павінна быць у авангардзе навучальнага працэсу, паколькі яна – крыніца маральнага выхавання, творчага развіцця асобы, здольнай успрымаць і разумець культуру і мастацтва, жыць па законах прыгажосці, дабра і міласэрнасці.

**Алесь БЕЛЬСКІ,**
**доктар філалагічных навук, прафесар,**
**лаўрэат Літаратурнай прэміі**
**імя І. Мележа,**
**галоўны рэдактар часопіса**
**"Беларуская мова і літаратура"**

**ЗАХАРАВА, 19**








Суполка маладых творцаў "Літаратурны квартал" працягвае сустрэчы. 15 мая кварталаўцы сабраліся, каб абмеркаваць творчасць маладога празаіка Аксаны Бязлепкінай. Для абмеркавання Аксана прапанавала сваю кнігу "Ляўша на тэнісным корце". Прагучала шмат выступленняў, творчасць Аксаны зацікавіла ўсіх. Выступоўцы адзначылі, што ў Аксаны Бязлепкінай свой адметны творчы почырк. Адметны і жанр – гарадская маладзёжная проза. Творам Аксаны ўлацівы інтэлектуалізм, іронія, раскаваная манера апавядання, яны чытабельныя, не пакідаюць чытача раўнадушным, хаця ўспрымаюцца і неадназначна. У гаворцы бралі ўдзел Таццяна Будовіч, Ігар Клепікаў, Андрэй Ключнікаў, Аксана Спрынчан, Таццяна Барысюк, Сяргей Патаранскі, Наталля Кучмель, Яўген Рамяніца, Рагнед Малахоўскі, Мікола Кандратаў, Наста Кудасава, Віка Трэнас, Наталля Капа, Сяржук Мінскевіч, Ірына Бурдзейка.

Вядома, гучалі і новыя творы іншых кварталаўцаў.

**Нагадваем, што суполка збіраецца штодня чацвер а 18 гадзіне. Даведкі па тэл. 284-79-65.**

# "БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА
## ў кантэксце гісторыі і культуры"

Так называецца новая кніжка Сямёна Падокшына, якая па сутнасці з'яўляецца своеасаблівым "выбраным" гэтага вядомага і адметнага навукоўца-даследчыка, доктара філасофскіх навук, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.

Сямён Падокшын — аўтар многіх манаграфічных прац, што набылі досыць шырокую — для такой "вузкай" (элітарнай) творчай і навуковай дзейнасці — грамадскую абазнанасць і адпаведны рэзананс у акадэмічных колах. Можна напомніць нашым чытачам хоць бы такія з іх, як "Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы" (Мн., 1970), "Скорина и Будный: очерк философских




взглядов" (Мн., 1974), "Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага" (Мн., 1990), "Палітычная і прававая думка Беларусі XVI-XVIII стст." (Мн., 2000) ды іншыя (тэксты ў "выбраным" выданні пададзеныя на беларускай і на рускай мовах, гэтак, як яны пабачылі свет у першапачатковых рэдакцыях). Сюды ўключаны аўтарам і найбольш цікавыя яго артыкулы апошняга часу , выдрукаваныя ў калектыўных зборніках, часопісах ды іншых перыядычных выданнях.

У кніжцы С.Падокшына ўздымаюцца актуальныя пытанні творчай свабоды, духоўна-культурнага сінтэзу паміж Усходам і Захадам, дзяржаўнага і нацыянальна-культурнага суверэнітэту, "культурнай эміграцыі"... Аўтар таксама разглядае пазітыўную ролю беларускага пратэстантызму і дзейнасць блізкіх да яго айчынных дзеячаў — А.Валовіча, Л.Сапегі, В.Цяпінскага, С.Буднага, якія спрычыніліся да фундаментальных асноў нацыянальнай культуры, мовы, адукацыі і палітычна-прававой думкі.

Як зазначае ў сваёй "Прадмове" да кніжкі Сямёна Падокшына член-карэспандэнт НАН Беларусі А.С.Майхровіч, на старонках гэтага выдання "ўпершыню распрацаваны важныя пытанні станаўлення і развіцця айчыннай філасофскай культуры: перыядызацыі і змястоўнай класіфікацыі арыстоцелізму на беларускай глебе, гісторыі айчыннага лібералізму, з якім знітаваны ідэі прававой дзяржавы, вяршэнства закону, правоў чалавека, эвалюцыі паняцця свабоды ў беларускай культуры"...

Адзін з раздзелаў кніжкі "Этыка", што раскрывае маральную дактрыну айчыннага пратэстантызму, увогуле не мае аналагаў у нашай гісторыка-філасофскай навуцы, пра што таксама зазначае яе навуковы рэдактар, ужо згаданы А.С.Майхровіч.

Сямён Падокшын таксама спрабуе даць новую навуковую ацэнку Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 года; аналізуе спадчыну і светапогляд некаторых адметных людзей беларускай культуры і думкі, паралельна падаючы іх жыццяпісы.

Адным словам, кніжка вартая прачытання і глыбокага навуковага аналізу, мажліва, палемікі і дыскусіі, а найперш — больш шырокага розгаласу, на што наш тыднёвік і спадзяецца, чакаючы цікавых матэрыялаў ад шаноўных крытыкаў і рэцэнзентаў.

**ЛеГал**

ДАНІНА ПАВАГІ

***Акадэміку НАН Беларусі, замежнаму члену Расійскай акадэміі адукацыі Васілю Уладзіміравічу Івашыну 9 мая 2003 г. споўнілася 90 год. Гэтага знакамітага вучонага-гуманітарыя, доктара філалагічных навук, прафесара, члена Саюза пісьменнікаў, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны і проста цікавага, яркага чалавека з поўным правам можна назваць сёння старэйшынай беларускай літаратурнай навукі і адной з галоўных творчых постацей на адукацыйна-педагагічнай ніве краіны.***

# НА ЎСІХ ШЛЯХАХ-ДАРОГАХ ВЕКУ

Нярэдка можна пачуць, што для кіраўніка буйной установы дастаткова і таго, каб быць добрым арганізатарам, а самому актыўна ўдзельнічаць у вытворчым працэсе нібыта неабавязкова.

Аднак і ў такіх умовах вялікай занятасці, займаючы (і часта працяглы час) кіруючыя пасады, В. Івашын імкнуўся і ўмеў спалучаць адміністрацыйную працу з творчай. Яго пяру належаць больш як 300 прац, прысвечаных пытанням гісторыі і тэорыі беларускай літаратуры, праблемам развіцця рэалізму, беларуска-рускіх, беларуска-ўкраінскіх узаемасувязей, методыкі і метадалогіі выкладання літаратуры ў школе. Сярод іх такія сур'ёзныя і грунтоўныя манаграфіі, як "Янка Купала. Творчасць 1905 – 1907 гг. і развіццё беларускай літаратуры", "М.Горкі і беларуская літаратура пачатку XX стагоддзя", "Да вышынь рэалізму", "Выверанае жыццём", "З пазіцый гуманізму" і інш.

Кожная з гэтых кніг заслугоўвае асобнай гаворкі. Большасць з іх вытрымала выпрабаванне часам. Нават у святле сённяшніх скептычных, строгіх і залішне ўжо тэндэнцыйна-непрымірымых ацэнак мастацкіх твораў, літаратуразнаўчых прац і асабліва літаратурнай крытыкі савецкага перыяду асноўныя манаграфіі і артыкулы В.Івашына не здаюцца састарэлымі.

Напісаная, напрыклад, дваццаць гадоў таму кніга В. Івашына "Да вышынь рэалізму" актуальна і свежа ўспрымаецца на цяперашні час. Аргументавана і тонка раскрываецца тут заўсёды важная для мастацкай практыкі і літаратурнай тэорыі думка аб тым, што літаратура пры ўсіх сваіх шырокіх і фактычна бязмежных правах і паўнамоцтвах на эстэтычны пошук і наватарскі эксперымент павінна заставацца чалавеказнаўствам і жыццязнаўствам. Гэта палажэнне знаходзіць глыбокую інтэрпрэтацыю і з'яўляецца па сутнасці лейтматыўным у саліднай манаграфіі даследчыка "З пазіцый гуманізму" (1998), скіраванай на высвятленне важнейшых тэарэтыка-метадалагічных і метадычных праблем літаратурнай адукацыі. Паслухаем, аднак, самога аўтара: "Безумоўна, літаратура, як і мастацтва ўвогуле, у кожную гістарычную эпоху выражае свой час... Аднак галоўная ўласцівасць і прызначэнне літаратуры – быць чалавеказнаўствам, выяўляць агульначалавечую меру. І гэта мера як эстэтычная і маральная каштоўнасць павінна вызначаць усю сістэму навучання, усе яе параметры і вымярэнні, увесь змест яе тэарэтыка-літаратурных паняццяў".

Да гэтых меркаванняў слыннага даследчыка і тэарэтыка літаратуры варта ўважліва прыслухацца. І асабліва тым маладым літаратарам, якія схільны лічыць, што праўдзіва-рэалістычнае адлюстраванне жыцця і мастацкае пазнанне псіхалагічных глыбінь чалавека без асаблівых пярэчанняў і затрымак павінна саступіць сваё месца такім накірункам у літаратуры, як мадэрнізм і постмадэрнізм, дзе мастацкая літаратурная традыцыя з яе пільнай увагай да ўнутраных рухаў чалавечай душы звычайна адсоўваецца на задні план.

Зразумела, мы жывем у новым гістарычным часе XXI ст., калі складванне і фарміраванне новай парадыгмы мыслення і ведаў у літаратуры і аб літаратуры, як і ў любой іншай галіне чалавечай дзейнасці, могуць стаць пазітыўна выніковым працэсам і прыносіць свой плён пры абавязковай умове выкарыстання новых ці кардынальна абноўленых метадалагічных падыходаў. Таму не будзем глухімі, безуважнымі і індыферэнтнымі і да такіх з'яў у літаратуры, як мадэрнізм і постмадэрнізм. Аднак ім яшчэ трэба даказаць (прынамсі, на нашай нацыянальнай глебе) і ў тэорыі, і ў практычнай сферы выяўлення мастацкага слова сваю жыццястойкасць, жыццядайнасць і заваяваць у чытача адпаведную ўвагу, павагу і аўтарытэт.

В.Івашын перакананы, што чытача-вучня і чытача-студэнта ў першую чаргу трэба далучаць "да багацейшых мастацкіх каштоўнасцей нацыянальнай і сусветнай літаратуры", бо менавіта на гэтай аснове найперш і магчыма выхаванне "творча актыўнага, духоўна багатага, высокакультурнага і эстэтычна развітага чалавека-патрыёта, грамадзяніна, гуманіста, адданага высокім нацыянальным і агульначалавечым ідэалам".

На працягу многіх гадоў В.Івашын, як мы ўжо сказалі, актыўны працаўнік на адукацыйна-педагагічнай ніве. І тут яго творчая прысутнасць з'яўляецца такім жа натуральным фактам, як і сталы літаратуразнаўчы інтарэс. На гэтай дзялянцы павінны працаваць, безумоўна, людзі з асабліва чуйным сэрцам, чыстым сумленнем і маштабным патэнцыялам ведаў. Як чалавек і вучоны, В.Івашын адпавядае і гэтым высокім патрабаванням. Багатымі на свежую думку і канцэптуальную метадычную і метадалагічную ідэю з'яўляюцца працы В.Івашына, напісаныя ў сааўтарстве ("Вывучэнне рускай літаратуры ва ўзаемасувязі з беларускай", "Канцэпцыя рэфармавання літаратурнай адукацыі", "Урок літаратуры"). Чынны ўдзел прымаў В.Івашын у стварэнні падручнікаў па беларускай літаратуры для сярэдняй школы. Некаторыя з іх у добрым сэнсе слова можна назваць "доўгажыхарамі". Так, падручнік для 8-га класа вытрымаў 27 выданняў. Да выдання ў трэці раз падрыхта-

ШТРЫХІ ДА ТВОРЧАГА ПАРТРЭТА

***У мінулым годзе Вячаславу Рагойшу споўнілася 60 год. Да гэтай даты бібліятэка БДУ (аўтар – Л.Тамашэўская, пад рэдакцыяй Т.Міцюхінай і К.Разанавай) падрыхтавала біябібліяграфічны даведнік вядомага вучонага і пісьменніка. Кніжка, у якой зафіксавана 782 публікацыі, нядаўна выйшла з друку.***

# ТАК ПОЎНІЛІСЯ РЭКІ

Няхай даруе мне Вячаслаў Пятровіч Рагойша за гэтую назву-запазычанне: менавіта так была калісьці названа яго рэцэнзія на маю кніжку пра творчае станаўленне знакамітых паэм Якуба Коласа "Новая зямля" і "Сымон-музыка". Аднак, мне здаецца, якраз гэтыя словы – найлепшая яго самахарактарыстыка, дакладней, зробленага ім на працягу апошніх 45 гадоў, пра што, дарэчы, ці не найлепшым чынам сведчыць дадзены біябібліяграфічны даведнік.

Дык якія "рэкі" нашай асветы, навукі, культуры поўніліся дзякуючы таксама (а часам і найперш) доктару філалагічных навук, прафесару, загадчыку кафедры тэорыі літаратуры БДУ, акадэміку Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі Вячаславу Рагойшу?

Першая і, несумненна, галоўная з іх – педагагічна-асветніцкая. Усё працоўнае жыццё В. Рагойшы звязана з БДУ – з 1958 г. па сённяшні дзень. Спачатку студэнт, аспірант кафедры беларускай літаратуры, затым (пасля службы ў арміі і абароны кандыдацкай дысертацыі ў 1967 г.) – выкладчык, старшы выкладчык, дацэнт гэтай кафедры, урэшце (з 1994 г., пасля паспяховай абароны доктарскай дысертацыі ў маскоўскім Інстытуце сусветнай літаратуры імя А.М.Горкага) – прафесар, загадчык новай, першай і пакуль што адзінай у Беларусі кафедры тэорыі літаратуры БДУ. На высокім навукова-метадычным узроўні ён чытае асноўныя тэарэтыка-літаратурныя курсы на філалагічным факультэце і факультэце журналістыкі, вядзе спецсемінар па праблемах вершазнаўства, чытае спецкурсы па паэтыцы літаратурнага твора і пытаннях выкладання тэорыі літаратуры ў школе, кіруе напісаннем дысертацыйных, дыпломных і курсавых работ. Паралельна з працай у БДУ выкладаў гісторыю беларускай літаратуры ў Інстытуце паліталогіі і сацыяльнага кіравання (1988 – 1991), разам з прафесарам А.Мальдзісам стварыў Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны, з'яўляючыся намеснікам яго дырэктара ў 1991 – 1994 гг. Неаднаразова прафесар В.Рагойша чытаў курсы лекцый, выступаў на навуковых сімпозіумах ва універсітэтах колішняга СССР і за мяжой. У навучальны працэс рэспублікі трывала ўвайшла складзеная В.Рагойшам (разам з А.Лойкам) хрэстаматыя "Беларуская літаратура XIX стагоддзя". Прафесар В.Рагойша актыўна працуе і на сярэднюю школу Беларусі, супрацоўнічае з Інстытутам праблем адукацыі (удзельнічае ў распрацоўцы школьных праграм, кіруе аспірантамі). Ён адзін з аўтараў і кіраўнік аўтарскага калектыву "Праграмы сярэдняй агульнаадукацыйнай школы з паглыбленым і профільным вывучэннем беларускай літаратуры" (2000). Пад яго рэдакцыяй і з яго аўтарскім удзелам выйшаў падручнік "Беларуская літаратура" для 10-га класа школ з паглыбленым вывучэннем роднай літаратуры, ліцэяў і гімназій (2001), ім напісаны асноўныя раздзелы падручніка "Беларуская літаратура" для 9-га класа базавай школы (2001). Зусім заслужана В.Рагойша ўзнагароджаны ганаровым знакам "Выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь".

Другая "рака" працоўнай дзейнасці В.Рагойшы – гэта, безумоўна, навука, дакладней – філалогія, літаратуразнаўства. Вучоны даследуе праблемы гісторыі і тэорыі беларускай літаратуры, вершазнаўства, беларуска-славянскія літаратурныя ўзаемасувязі, паэтыку літаратурнага твора, пытанні тэорыі і практыкі мастацкага перакладу. Выявіў і апублікаваў шэраг невядомых архіўных матэрыялаў па беларускай літаратуры XIX ст., творчасці Янкі Купалы, Якуба Коласа, М.Багдановіча, Цёткі, С.Палуяна, Старога Уласа і інш.




Склаў бібліяграфічны даведнік "Працы кафедры беларускай літаратуры БДУ" (1968), "Сяргей Палуян. Лісты ў будучыню" (1986; разам з Т.Кабржыцкай), "Стары Улас. Год беларуса" (1990), "Янка Купала. Жыве Беларусь" (1993), "Янка Купала. Санеты: На мовах свету" (2002; разам з Ж.Дапкюнас) і інш.

Я даўно заўважыў, што сувязі паміж народамі нашай краіны і іншых краін, сувязі літаратурна-мастацкія, тэатральныя, музычныя, ахвотней вывучаюць тыя, хто нарадзіўся ў поліэтнічным асяроддзі, найперш – учарашнія местачкоўцы. Тлумачэнне гэтай з'явы трэба шукаць, напэўна, у сферы псіхалогіі. Дзіцячыя гады, юнацтва, хатняя, сямейная атмасфера, паўсядзённыя кантакты з людзьмі розных нацыянальнасцей, вядома ж, накладвалі свой адбітак на іх унутраны свет, на іх уяўленні. Узнікала жаданне асэнсаваць калісьці перажытае, убачанае, пачутае, жаданне падзяліцца думкамі, меркаваннямі, вынесці іх на суд грамадскасці. Да такіх "учарашніх местачкоўцаў" (з мястэчка Ракаў Валожынскага раёна) належыць і В.Рагойша. Паводле маёй глыбокай перакананасці, ён з'яўляецца нашым вядучым даследчыкам культурнага памежжа – беларуска-рускага, беларуска-ўкраінскага, беларуска-польскага. Нездарма ж львоўскі прафесар І.Дзенісюк, рэцэнзент кнігі "Карані дружбы" (1976; напісана ў сааўтарстве з Т.Кабржыцкай), назваў Вячаслава

ваны падручнік для 10-га класа (аўтары В.Івашын і М.Лазарук). Трэба спадзявацца, што і гэтаму нязменнаму спадарожніку вучня і настаўніка-філолага будзе наканавана працяглае жыццё. На наш погляд, тут захаваны і вытрыманы найбольш важныя праблемна-жанравыя асаблівасці кніг падобнага роду. Даходлівасць і прастата выкладання думкі дасягаецца тут не за кошт звужэння межаў яе выхаду на складанае кола праблемных пытанняў, а смела ідучы ім насустрач. У добрай кампазіцыйнай і дыялагічнай суладнасці "працуюць" у падручніку такія паняцці і катэгорыі, як форма і змест твора, этычнае і эстэтычнае, нацыянальнае і агульначалавечае.

На высокім узроўні аналітыкі і дэмакратызму мыслення выяўляе сябе думка В.Івашына на шляху вызвалення школьных праграм і літаратуразнаўчых даследаванняў ад ідэалагічных дэфармацый, празмернай палітызацыі і сацыялагізатарства літаратуры. Нельга не пагадзіцца з тым меркаваннем даследчыка, што на працягу доўгага часу мэты і задачы літаратурнай адукацыі ў школьных праграмах і падручніках "падаваліся вельмі спрошчана, аднабакова", у шэрагу выпадкаў прыглушалася ці нават "скажалася само разуменне агульначалавечай прыроды мастацтва, яго эстэтычнай спецыфікі, асаблівасцей вобразнага мыслення". Некаторыя з гэтых недахопаў учарашняга дня ў пэўным сэнсе адгукаюцца яшчэ і сёння. Пытанні пісьменніцкага майстэрства, паэтыкі і эстэтыкі працягваюць заставацца найбольш цяжкімі ў праграмах і курсах сярэдняй і вышэйшай школы выкладання літаратуры і пры засваенні іх школьнікамі і студэнтамі. Вось чаму, настройваючыся на пераадоленне такіх цяжкасцей, пісьменніку і даследчыку літаратуры варта сур'ёзна задумацца над слушным меркаваннем В.Івашына аб важнасці "захоўваць эстэтычную меру, правяраць ёю маральную, філасофскую, псіхалагічную праблематыку твора", бо ўсё тут "набывае эстэтычнае вымярэнне" і толькі ў кантэксце эстэтычнага "становіцца формай вобразнага пазнання".

Апрача таго, ён – аўтар двух вершаваных зборнікаў "Слова" (1995) і "Покліч памяці" (1998).

Пераважна напісаныя ў традыцыйнай манеры, без нейкіх асаблівых прэтэнзій на версіфікацыйныя тонкасці і фармальнае мудрагельства, вершы В.Івашына вызначаюцца, між тым, мудрым, праблемна-філасофскім пафасам і вельмі шчырай даверлівай інтанацыяй. А шчырасць, адкрытасць і даверлівасць у мастацкай творчасці і асабліва ў паэзіі – надзвычай каштоўная якасць, што адначасна з'яўляецца і выразнай прыкметай паэтычнага таленту творцы. На звычайныя рэчы і з'явы В.Івашын умее зірнуць свежым вокам, і тады часта вядомая і, здавалася б, аксіяматычная ісціна набывае адценне сэнсавай навізны і актуальнага гучання.

Яму, здаецца, даспадобы выклікаць чытача на размову, натхняць яго на асацыятыўны шлях мыслення, шукаць сябе самога ў гэтым складаным, альтэрнатыўным, дыскусійна-палемічным свеце.

Цікавым з'яўляецца ў гэтым сэнсе яго верш "Прыцягненне роднае зямлі", дзе аўтар паэтызуе, узвышае такую пазіцыю, такі погляд, такую канцэпцыю, якія адхіляюць, адмаўляюць і не прымаюць каноны і схематызм, аднабаковасць і "аднамернасць жыцця" і валодаюць здольнасцю, абапіраючыся на духоўную "сілу прыцягнення роднае зямлі", убіраюць у сябе ўсе "шматфарбныя акрасы-віды свету". Пасля такіх нязмушаных разважанняў "я-героя" паўней і глыбей акрэсліваецца падтэкставая думка верша аб тым, што мы, як самастойная нацыя і суверэнная краіна, павінны, абавязаны свята захоўваць і аберагаць сваю ўласную ментальнасць і закліканы ў той жа час самім гістарычным лёсам падтрымліваць, развіваць і пашыраць мнагавектарную і дружалюбную духоўную сувязь з усёй сусветнай супольнасцю народаў і нацый.

Паэтычнае слова вершаў В.Івашына не абмінае і драматычныя звівы эпохі, "трывожны час пераўтварэнняў, пераацэнак, адмаўленняў, няпэўных, страчаных надзей, перабудоваў, адхіленняў" і г. д. Але крытычна-філасофскае стаўленне чалавека да пэўных грамадскіх падзей і з'яў не перарастае ў яго творах у формы нейкага дрымотнага скепсісу і недаверу да жыцця. На думку аўтара, усім нам трэба паменей стагнаць, плакацца ды наракаць, бо наспеў час "ніву сваю засяваць на шырокім адроджаным полі", а дзеля здзяйснення такой вялікай і высакароднай задачы варта найперш добра папрацаваць "над самім сабою" і самаўдасканаленнем. Пошук, дарога, вера, любоў, надзея, краса, гармонія – у пэўным сэнсе ключавыя словы ў лексіконе паэтычных твораў аўтара. Невыпадковай у гэтай сувязі з'яўляецца і назва падрыхтаванага да друку новага паэтычнага зборніка вершаў В.Івашына "З надзеяй і верай".

**Васіль ЖУРАЎЛЁЎ**

---

Пятровіча "спрадвечнай дружбы летапісцам". Справядлівасць гэтай высокай ацэнкі, яе трапнасць пацвярджаюць і многія іншыя яго кнігі, манаграфічныя даследаванні. Сярод іх – "І нясе яна дар: Беларуская паэзія на рускай і ўкраінскай мовах" (1977), "Проблемы перевода с близкородственных языков" (1980), "Кантакты" (1981), "І адгукнецца слова ў слове" (1992) і інш.

Што датычыць вершазнаўства, то ў сучаснай Беларусі В. Рагойша – агульнапрызнаны аўтарытэт. Яго працы "Паэтычны слоўнік", што вытрымаў два выданні (1979 і 1987 гг.), "Гутаркі пра верш: Метрыка. Рытміка. Фоніка" (1979), "Слоўнік-мінімум па літаратуразнаўству" (2000), "Тэорыя літаратуры ў тэрмінах" (2001) – значная з'ява ў айчынным літаратуразнаўстве. Можна гаварыць пра вершазнаўчую школу В.Рагойшы, гэтаксама як пра яго школы перакладазнаўства і кампаратывістыкі.

Трэцяя "рака", якую па магчымасці поўніў і поўніць В.Рагойша, – літаратурна-*творчая. З вершамі, рэцэнзіямі, мастацкімі* перакладамі ён выступае з 1957 года. Менавіта 1 студзеня таго года ў радашковіцкай раённай газеце "Сцяг Ільіча" былі апублікаваны яго першыя вершы. Праўда, хоць вершы В.Рагойша піша (і часам публікуе) да сённяшняга дня, кніжку ўласнай паэзіі ён, на жаль, выдаць пакуль што не парупіўся. Асноўны творчы імпэт В.Рагойшы пераліўся ў літаратурную крытыку і мастацкі пераклад. Што да мастацкага перакладу, то В.Рагойша пераўвасобіў сродкамі роднага слова раманы А.Ганчара "Твая зара" (1985), У.Явары́ўскага "Марыя з палыном у канцы стагоддзя" (1991), аповесць М.Кацюбінскага "Цені забытых продкаў" (1980), драму-феерыю Лесі Украінкі "Лясная песня" (1996) і некаторыя іншыя творы ўкраінскіх пісьменнікаў. Асобныя творы перакладзены ім з польскай, славацкай, сербскай і іншых моў. У кастрычніку 2000 года В.Рагойша (разам з Т.Кабржыцкай) стаў лаўрэатам Міжнароднай літаратурнай прэміі імя Івана Франка – за даследаванне, пераклады, папулярызацыю ўкраінскай літаратуры ў Беларусі.

І яшчэ пра адно хочацца сказаць. Прафесар В.Рагойша актыўна займаецца грамадскай працай. У свой час (пачатак 90-х гг. XX ст.) ён актыўна ўдзельнічаў у стварэнні Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" (быў намеснікам старшыні Згуртавання), з'яўляўся вучоным сакратаром секцыі нацыянальных моў і літаратур Навукова-метадычнага савета па вышэйшай філалагічнай адукацыі Мінвуза СССР (у 1971 – 1987 гг.), членам Савета па мастацкім перакладзе Саюза пісьменнікаў СССР (1976 – 1991). У дадзены момант ён член вучоных саветаў па абароне доктарскіх дысертацый (пры БДУ і Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі), *старшыня экспертнага* савета ВАК РБ па літаратуразнаўстве, прэзідэнт Міжнароднага фонду Янкі Купалы, старшыня секцыі беларускай мовы і літаратуры Навукова-метадычнага цэнтра вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі Беларусі, член Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў і інш.

Не менш плённай і мэтаскіраванай з'яўляецца краязнаўча-культуралагічная праца В.Рагойшы. Ён цесна звязаны з роднай зямлёй, з мясцовымі ўладамі роднага Валожынскага раёна. Па яго ініцыятыве і пры яго актыўным удзеле ўшанаваны мясціны выдатных дзеячаў беларускай, рускай, польскай, яўрэйскай культур, адкрыты помнікі і ўстаноўлены мемарыяльныя дошкі ў гонар В.Дуніна-Марцінкевіча, А.Бястужава-Марлінскага, Э.Ажэшкі, Старога Уласа, Янкі Купалы і інш. Прафесар В.Рагойша ўзначальвае Грамадскі камітэт па аднаўленні Святыні – Крыжаўздзвіжанскай царквы на святой вадзе каля Ракава. У родным Ракаве ў бацькоўскай хаце ён стварыў на грамадскіх пачатках Музей поліэтнічнай культуры Ракаўшчыны. Таксама на грамадскіх пачатках для землякоў і пра землякоў выпускае (з 2000 г.) культурна-асветнае выданне Ракаўскага краю – газету "Ракаўскі шлях". Шырокі рэзананс у рэспубліцы атрымалі "Ракаўскія чытанні" – *міжнародныя навукова-практычныя канферэнцыі*, што рэгулярна, раз у два гады, праводзяцца на базе Ракаўскай СШ. Арганізатарам чытанняў і нязменным старшынёй (сустаршынёй) іх аргкамітэта з'яўляецца В.Рагойша. У 2002 годзе паспяхова прайшлі чацвёртыя па ліку "Ракаўскія чытанні" пад назвай "Пісьменнік і Радзіма (родны кут)", прысвечаныя 120-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Такія "рэкі" педагагічнай, навуковай, творчай і грамадскай дзейнасці прафесара БДУ В.Рагойшы. Дзейнасць гэтая, як мы бачым, па-скарынаўску разнастайная і плённая. Зусім заканамерна, што на грудзях вучонага-педагога красуецца медаль Францыска Скарыны.

**Міхась МУШЫНСКІ**

---

**УРАЖАННЕ**

# КАЛІ БЛАНДЗІНКА АТАКУЕ

Так атрымалася, што маё знаёмства з кнігай "Blonde attack" Ганны Кісліцынай амаль супала *па часе з размовай пра крыты*ку на чарговым пасяджэнні "Літаратурнага квартала" ў "ЛіМе". Таму, пасля традыцыйных разваг пра магчымасці ці немагчымасці існавання аб'ектыўнай крытыкі і "рытуальнай злосці", адначасова заканамерным і нечаканым было прачытаць: "Крытыка — жаночая справа"... Гэта выснова выклікала ў мяне супярэчлівыя пачуцці. Здавалася б, як жанчына-крытык я павінна ўзрадавацца і пагадзіцца, тым больш, што ў крытыцы апошнім часам сапраўды шмат прадстаўніц так званай слабой паловы *чалавецтва*. На думку Ганны Кісліцынай, "крытыка — гэта і так спрадвечна жаночая справа. Мужчына будуе, малюе,піша... Жанчына заўсёды незадаволена — яна вартая большага. Мажліва, крытык не прафесія, а пол". Безумоўна, у нейкай *ступені гэта слушна, але ж якой* будзе літаратурная крытыка толькі з жаночай эмацыйнасцю, а то часам і істэрычнасцю, ды без мужчынскай разважлівасці і халоднага бясстраснага разліку... Пэўна, я не феміністка.

Яшчэ адна даволі супярэчлівая выснова: "Крытык — той, хто любіць літаратуру, але не літаратараў. На пісьменнікаў ён глядзіць у задуменні... Як той цыган з показкі. "Ці то гэтых дзяцей адмыць, ці то новых нарабіць?" Як па мне, дык тых, што ёсць, ужо і не адмыеш" ("Крытыка — *жаночая справа*"). З гэтай нагоды мне прыгадаліся словы знаёмага паэта і крытыка ў адной асобе пра тое, што раней ён з захапленнем чытаў артыкулы Г. Кісліцынай, а пасля перастаў, бо яна любіць пісьменнікаў, пра якіх піша. Парадаксальна,ці не так? Асабіста ж для мяне любоў да літаратуры і да яе стваральнікаў — адно і тое ж. Прычым апошніх я люблю і "неадмытымі" — якія ёсць. У літаратуры павінны быць і геніі, і графаманы. Дыялектыка літаратурнага жыцця якраз і заключаецца ў адзінстве і барацьбе гэтых супрацьлегласцяў.

"Blonde attack" змяшчае і неэпатажныя слушныя заўвагі наконт крытыкі. Да прыкладу, наступная: "Той факт, што на Беларусі не было філосафаў (...) дзіўным чынам паўплываў на характар сённяшняй літаратурнай крытыкі. Кожную больш ці менш цікавую з'яву, якая б магла быць акрэслена як інтэлектуальная літаратура, яна вымушана не толькі апісваць, але і абмяраць, вызначаючы, што і ў якой ступені было пазычана аўтарам у той ці іншай філасофскай сістэме Захаду ці Усходу" ("Нябесны вецер *вырастае* хваляй..."). Сапраўды, адсутнасць уласнай прафесійнай філасофскай думкі і цэласнай філасофскай сістэмы — пры імкненні пісьменнікаў да асэнсавання праблем быцця ды пазнання свету — вымагае ад іх і ад крытыкаў арыентацыі на чужую традыцыю. Але ж гэта ўжо асобнае пытанне: наколькі апраўдана і мэтазгодна ў канкрэтных выпадках вымярэнне нашай нацыянальнай культуры сродкамі іншых культур?

Засмучае Г. Кісліцыну і становішча літаратуразнаўства ды літаратурнай крытыкі, бо "творчая моладзь не хоча асвойваць жанры, якія патрабуюць хаця б больш-менш інтэлектуальных высілкаў" ("Размова з фінінспектарам пра правінцыю, альбо Рэцэнзія ў стылі рэтра"). Ад сябе дадам, што калі той ці іншы з ліку творчай моладзі раптам вырашае "крытыкнуць", не маючы не тое што элементарных літаратурных, літаратуразнаўчых, а нават і культурных ведаў, адно ўзброіўшыся "рытуальнай злосцю", — вынік проста ашаламляе сваёй безгустоўнасцю і ваяўнічай вычварнасцю. Здаецца, дылетант ад крытыкі яшчэ страшней, чым дылетант ад літаратуры. Але, маючы на ўвазе гэтую акалічнасць, удвая прыемней чытаць сапраўдную крытыку атакуючай бландзінкі.

Неяк на старонках "Крыніцы" Ала Сямёнава, прыгадваючы зноў жа немалую колькасць жаночых імёнаў у літаратуры, трапна заўважыла: "Адчуванне сэнсу і розуму, розуму і формы, схільнасць да парадоксаў, да сутыкненняў розных узроўняў культуровай свядомасці — у інтэлекце Ганны Кісліцынай". Сведчанне таму — "Blonde attack", дзе спалучэнне парадаксальнасці, рашучасці і дакладнасці, а часам нават афарыстычнасці думкі з'яўляецца вызначальным. Напрыклад, такія выказванні, як "У прынцыпе сам занятак літаратурай — ужо праява эксгібіцыянізму", "Сёння гэта прыватны погляд, заўтра — літаратурны стэрэатып", "Адчуванне маргінальнасці нацыянальнай літаратуры — наймацнейшы рухавік яе развіцця", як, зрэшты, і некаторыя назвы яе вядомых артыкулаў: "Раіса Баравікова як секс-сімвал беларускай літаратуры", "Іван Шамякін — апостал мадэрнізму". Яны ўражваюць сваёй неардынарнасцю і запамінаюцца парадаксальнасцю.

Чытаючы кнігу Г. Кісліцынай, зноў пераконваешся ў вядомай ісціне, што пранікнёны крытычны твор не менш значны за мастацкі, бо ён выпрацоўвае ў чытачоў погляды на літаратурныя з'явы, асобныя пісьменніцкія ўдачы-няўдачы, ды і на ўвесь літаратурны працэс. Узяць хаця б артыкул "Выбуховы смак альтэрнатывы", у якім даецца шырокая панарама даволі порсткай паэзіі, што ўзнікла пасля "смерці беларускага сацрэалізму". Аналізуючы творы Л. Вольскага, С. Мінскевіча, В. Жыбуля, Ю. Гуменюка, А. Аркуша, С. Адамовіча і іншых прадстаўнікоў новай генерацыі літаратараў, крытык з пэўнай доляй іроніі, ёміста і доказна вызначае асноўныя рысы гэтай паэтычнай плыні: эгацэнтрызм, моўны нігілізм і абсалютызм, сексуальную заклапочанасць, правакацыйнасць. Між іншым, у змешчаным у кнізе інтэрв'ю Г. Кісліцына прызнаецца, што хоць і песціць новую літаратурную, хвалю, перспектыў для яе не бачыць, бо няма ў "маладога пакалення нечага прынцыпова арыгінальнага — усё тое ж "у рожкі са старымі", усё тое ж" гадаванне апазіцый" ("Няздзейснены пераход"). Крытык умее не толькі адзначыць пэўныя факты літаратурнага жыцця, але і ўзняцца над імі да абагульнення ўбачаных з'яў, знайсці іх вытокі і заняць сваю прынцыповую пазіцыю.

У крытычных выступленнях Г. Кісліцынай няма нуднай апісальнасці і шэрай аднастайнасці, яе стыль жывы, натуральны і эмацыйны. Меркаванні выказваюцца з сапраўдным натхненнем, разам з тым узнікаюць нечаканыя, пададзеныя ці то жартам, ці то ўсур'ёз ідэі, кшталту: "Дык калі ўжо не дае нам прырода ўсё ў адной асобе, то, можа, ёсць сэнс злучыць тэорыю і практыку хаця б у межах адной сям'і? Можа, варта спрабаваць зрабіць сапраўдную сучасную кнігу, на вокладцы якой стаяла б адно прозвішча і два імя — Шамякіны Іван і Таццяна" ("Іван Шамякін — апостал мадэрнізму"). Для некага прымальна, для некага — не, невядома, што думаюць на гэты конт Шамякіны, але прапанова арыгінальная.

І яшчэ адна важная рыса творчай манеры Ганны Кісліцынай: яна заўсёды ўжываецца ў тэму, імкнецца пранікнуць у глыбіню ўзнятых праблем. Удала схопленыя літаратурныя факты арганізуе вакол моцнай стрыжнёвай думкі, як правіла, афарыстычна сфармуляванай у канцы крытычнага твора. У выніку "Blonde attack" ярка адлюстроўвае некаторыя моманты сучаснай беларускай літаратуры і асвятляе найбольш прыкметныя здабыткі на яе абсягах.

Наталля ДЗЯНІСАВА

# «ТАРАС НА ПАРНАСЕ» ў XXI СТАГОДДЗІ

Вядомы твор беларускай літаратуры XIX стагоддзя, паэма "Тарас на Парнасе", зноў убачыў свет. У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адбылася прэзентацыя новага выдання паэмы, якое выйшла на трох усходнеславянскіх мовах: беларускай, украінскай, рускай. З гэтай нагоды ў музеі была падрыхтавана выстава "Тарас на Парнасе" (з гісторыі выдання), на якой прадстаўлена рэтраспектыва выдання паэмы на працягу XX стагоддзя. У экспазіцыі выкарыстаны матэрыялы з фондаў Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь, Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі, асабістага архіва вядомага даследчыка Віталя Скалабана.

Шаноўныя госці, а гэта – саветнік па культуры Пасольства Украіны ў РБ Станіслаў Удавенка, галоўны спецыяліст упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Ларыса Каткова, пісьменнікі, мастакі, навукоўцы, музейшчыкі, навучэнцы Мінскага педагагічнага каледжа №1, якія прыйшлі на вечарыну, спачатку трапілі на "Кірмаш у Траецкім" (пад такой назвай у літаратурным музеі працуе этнаграфічна-мастацкая выстава).

Што толькі не адбывалася на кірмашах у даўнія часы: ішоў гандаль, ладзіліся танцы, выступалі артысты, але ўсіх да сябе прыцягвала батлейка. Таму і ўдзельнікам прэзентацыі быў прадстаўлены класічны спектакль "Цар Ірад". Гасцям літаратурнага музея пашанцавала – яны сталі і ўдзельнікамі традыцыйнага беларускага кірмашу, і гасцямі літаратурнага Парнасу. Дзякуючы таленту артыста Алега Вінярскага, у выкананні якога гучала паэма, здаецца, усе прысутныя разам з Тарасам апынуліся на Парнасе.

"Музейны літаратурны Парнас" адкрыў паэт Алесь Пісьмянкоў, галоўны рэдактар часопіса "Вожык". Менавіта вожыкаўцы праявілі ініцыятыву ў выданні паэмы. Калі глядзіш на ілюстрацыі Аляксандра Каршакевіча, адчуваеш – сапраўды вожыкаўскае, гумарыстычнае выданне. Меў слова і вядомы даследчык Генадзь Кісялёў, які напісаў прадмову да гэтага выдання паэмы. Далей гучала лірычная ўкраінская мова – "Тарас на Парнасе" ў выкананні аўтара перакладу Валерыя Стралко. Асабістымі ўражаннямі пра паэму падзяліўся паэт-перакладчык, член нацыянальнага Саюза пісьменнікаў Украіны Сяргей Баршчэўскі. На яго думку, "Тарас на Парнасе" – гэта неўміручы твор і, магчыма, састарэлі пераклады, але арыгінал застаецца класікай беларускай літаратуры. А вось вядомы навуковец Язэп Янушкевіч распавёў пра будучае паэмы, бо ён з'яўляецца ўкладальнікам новага выдання, якое выйдзе на сямі мовах. Адным з ініцыятараў выступае Уладзімір Гілеп, які ўзначальвае Беларускі фонд культуры.

У адрозненні ад Парнаса, на які выпадкова трапіў Тарас, на "музейным літаратурным Парнасе" ўсё адбывалася ў атмасферы ўзнёслага настрою і згоды. А вынік адзін – паэма жыве і будзе жыць.

**Вольга ГУЛЕВА**





**Алег ЛОЙКА**



•

*І ўдзячны Богу я за тое,*
*Удзячны роднай старане,*
*Што цераз іх пазнаў святое,*
*якое свет не абміне.*

*На свеце будзе ўсё, як будзе*
*На тысячах яго дарог,*
*І ўрэшце зразумеюць людзі,*
*Што Беларусь мне даў сам Бог.*

*Вось Беларусь мая — з парога,*
*І я з ёй грэшным і святым:*
*На гэтым свеце ўдзячны Богу*
*І, думаю, што і на тым.*

*Шчакою да травы хінуся,*
*Да ачышчальнае расы,*
*Што, як купель, у Беларусі*
*Любові да яе красы —*

*Любові і таго клапоту,*
*Які не можа не любіць*
*Зары святую пазалоту,*
*Якой над Беларуссю быць.*

•

*Не выпетрыць мая душа да скону,*
*На тое скон,*
*каб выпетрыць душы, —*
*Не стаўце ў галаве маёй ікону,*
*А лілію ў гліняным гладышы.*

*Не стаўце ў галаве маёй распяцця,*
*Іконкі не кладзіце мне ў руку,*
*Не па распяцце я ў нябёсы пяўся,*
*А з нотай беларускай жаўруку.*

*У Слоніме занемагу ці ў Глуску,*
*Зімой, вясной, у спёцы ці слаце,*
*Алтарны служка,*
*адспявай па-беларуску*
*Раба, што Беларуссю летуцеў...*

## ПАМЯЦІ ВАЦЛАВА ЖЫДЛІЦКАГА

*Што ж ты так бушавала, Влтава,*
*Што не стала майго Вацлава,*
*Нашага Вацлава не стала, —*
*Што ж ты так бушавала,*
*Влтава?!*

*Беларускаму слову "сябры"*
*Пакланяўся ты, ніжай зары,*
*Тэзаіменны святому Вацлаву,*
*святога множачы славу,*

*Ды — занямела рука*
*Беларускага сябрука,*
*Якой і з красы слова нашага*
*Славяншчыне назапашана...*

*Карлава ўніверсітэта лавы*
*Шырэлі ад запросін Вацлава,*
*І Гашакавыя каля Влтавы —*
*Шырэлі ад запросін Вацлава, —*

*Ды не пашырэюць больш,*
*Увайшлі ў берагі Влтава,*
*Ды не сяброў тваіх боль,*
*Не жаль Беларусі ласкавай.*

•

*Не казаў таго нікому аніколі,*
*Не казаў, каб не няволіць,*
*не хлусіць:*
*Беларус я, беларуса доля*
*Родны свет свой беларусіць.*

*Курганы абходзіць Шчара хваляй,*
*Шчару разумею, як сябе:*
*Там заўсёды будзе болей даляў,*
*Дзе ўраган іх не паперабе.*

## ВЯРТАННЕ МАЙГО БАЦЬКІ З БЕЖАНСТВА

**Прысвячаецца дзеду Івана Саламевіча (па бацьку)**

*Голад — пілою тупою,*
*У горле — пусты ком...*
*Прыйдзі, дзівосны поезд,*
*Стань нашым цягніком!..*

*Бацька наш хросны, Байкале,*
*У замеці нягод*
*Сем год мы прачакалі,*
*Чакалі мы сем год.*

*Нашы пустыя торбы:*
*Ні срэбра, ні парчы, —*
*Вазьмі нас, дзядзечка добры,*
*На свае харчы!..*

*Байкале — халодны, галодны,*
*Прытулку сіроцкага рай,*
*Ты быў нам найбліжэйшым родным,*
*Радней, аднак, родны край.*

*Пыхкае лакаматыва,*
*Набірае вады,*
*Беларусь, як дзіва —*
*Тры месяцы язды!..*

*Нашы пустыя торбы:*
*Ні срэбра, ні парчы,*
*Вазьмі нас, дзядзечка добры,*
*На свае харчы!..*

## НА БЕЖАНСКІЯ МАТЫВЫ

*Ля далёкага Байкала*
*Бацьку яно чакала,*
*Як і маму таксама*
*Ля далёкага Канібадама,*
*А мяне — ля Кабула,*
*Абмінаючы Крым, Рым,*
*Папы суплікі, булы*
*Ў свеце, як Рым, старым...*
*О, мой афганскі Багрым,*
*У свеце адзіны рытм:*
*"Кажане, кажане,*
*Што ж не сеў ты на мяне,*
*Каб талібам я не рос*
*Каля крошынскіх бяроз, —*
*Нас куды ж Алах жане,*
*Кажане мой, кажане?!"*
*Не прарок, не аксакал,*
*Не адказвае Байкал,*
*Голасу з Канібалама*
*Не падасць таксама мама,*
*Ад ракетнага гулу*
*Глухне верш мой ля Кабулу.*

## ПАМЯЦІ ЖЭНІ ЯНІШЧЫЦ

*Абярог бы, бярог,*
*Не адпусціў крылатай,*
*Ды не маіх дарог*
*Падсалоўкам была ты;*

*Зразумеў бы, як мог,*
*Не пайкрылом ахінуў бы*
*Ды не маіх трывог*
*Была ты песні Калумбам;*

*З нявобжытага гнездайя*
*Зляцела, радней дачушкі,*
*Свойская, ды не мая —*
*Зямліцы палескай птушка.*

•

*Аптымістычна ўздыхаю,*
*Аптымістычна пяю,*
*Песімістаў не хаю,*
*Тым болей — ліру сваю;*

*Ад Свіцязі да Паміра,*
*Ад Шчары да Абі*
*Лірык я, шчыры лірык,*
*Хоць мяне забі, —*

*А заб'юць, зацягнуць*
*За сотую вярсту,*
*І з пазалетнай багны*
*Лірыкам я прарасту!*



I

У чыстым і бязмежным, як мора, блакіце, моцна прыпякаючы, паціху плыло сонца. З лугу са скошаных пракосаў лёгкі ветрык даносіў казытлівы водар кветак, а з боку гасцінца — мядовы пах ліпы.

"Учора пасля зацяжнога дажджу-залевы, які ўсчаўся з самай раніцы, Бярэзіна была шэрая, непрыветлівая, а сёння, бач ты, сцішылася, палагаднела, — радаваўся Лявон Макейчык, ідучы берагам ракі. — Вада ў рэчцы чыстая, як сляза, празрыстая, нават дробныя каменьчыкі ля самага берага відаць".

Лявон мінуў альтанку і каля дуба са зламанай макаўкай, адзін бок якога быў ажно чорны, абпалены маланкаю, зняў з сябе штаны і кашулю, паклаў іх на грудок, парослы густым зялёным дзяцельнікам, падышоў да берага і даў нырца.

Цела ў адзін міг агарнула пяшчотная прахалода вады. Ён усплыў на паверхню, адчуў на сабе зверху мяккі прыемны дотык промняў сонца і, баючыся за сваю нагу, на сярэдзіну рэчкі не паплыў, а скіраваў назад. Выкідваючы ўперад то адну, то другую руку, паціху паплыў уздоўж берага.

На павароце ракі Лявон вылез з вады, вярнуўся да дуба, пад якім ляжала яго адзенне, і прылёг у цянёк. Доўга слухаў, як сакаталі ў траве конікі, зачаравана назіраў за божымі кароўкамі, якія, як заведзеныя, снавалі туды-сюды па абсмаленым камлі дрэва, а потым узяў і задрамаў крыху.

— Дзядзька Лявон, каго я бачу! Такія людзі... і без аховы... — раптам пачуў Макейчык і расплюшчыў павекі.

Перад ім стаяў Кадзік Гаўрыленка, сын галоўнага агранома калгаса. У новенькіх джынсах фірмы "Мантана", квяцістай з асіметрычнымі лініямі кашулі і красоўках, таксама замежных. Высокі, нібы каланча, з вялікім пляскатым носам і пукатымі, як у жабы, вачыма.

Кадзік быў не адзін. "Губа не дура. У самога твар, як у старога дзеда, зморшчаны, зямліста-цёмны, а кралю, бачыш, якую хвацкую на кручок падхапіў", — падумаў Макейчык пра аграномавага сына і кінуў позіркам на яго сяброўку, якая трымала Кадзіка пад руку.

Дзяўчына і сапраўды была вельмі прыгожая. Маладзенькая зусім, стан гнуткі, як у бярозкі, вочы вялікія, чорныя, на румяных шчоках дзве ямачкі, а на грудзях пышная русявая каса.

"А дзе ж Кадзік Лену, жонку сваю падзеў? — зноў мільганула ў Макейчыкавай галаве думка. — Гэта ж паўгода ўсяго прайшло, як бацька яму ў Мінску вяселле спраўляў. Пэўна, развёўся, абэлтус. Ды з універсітэта, кажуць, яго вытурылі. Яно і відома: сытае бруха да навукі глуха. У бізнес цяпер Кадзік кінуўся. Што ні дзень — на базары сядзіць, імпартам гандлюе".

— Дзядзька Лявон! Ну, а як твая нага, не баліць? — ухмыльнуўся, прыснуў светлажоўтымі бялкамі вачэй Кадзік.

— Нічога, жыць можна. Хоць і крывая, як дуга, але ж свая...

— А, можа, па чарачцы зробім? Сядзем радком, пагаворым ладком. Га, дзядзька Лявон? У мяне тут пляшка "Напалеона" ёсць і закуска добрая. – Кадзік паляпаў рукою па пукатай чорнай скуранай сумцы. А ў вачах насмешка. Нейкая нядобрая, злая.

— Не, Кадзік, дзякую. Вечарам мне на дзяжурства трэба заступаць, — адазваўся Макейчык.

— Тваё дзела, дзядзька Лявон, — незадаволена буркнуў Кадзік і падхапіў з травы сумку.

Жыў Лявон Макейчык адзін-адзінюткі, як той пакінуты колас на зжатым полі. Праўда, гадоў пятнаццаць таму, калі Макейчык яшчэ трактарыстам рабіў, ён пазнаёміўся з Сікстэлай Астроўскай — гадоў каля сарака, але яшчэ стройнай, з вялікімі сінімі вачыма маладайкай. Яна ў калгасе заатэхнікам працавала. Мела Сікстэла сыночка Мішу, які ў першы клас хадзіў. Хлопчык вельмі хваравітым быў: часта сэрца і жывоцік балелі. Сікстэла збірала розныя лекавыя расліны і паіла хлопчыка зёлкамі, адварам.

Усяго паўгода пражыў Лявон з Сікстэлай. Усё было добра. Міша пакрыху папраўляцца пачаў, зрабіўся рухавым, шчокі паружавелі. Але, як кажуць, на бяду і курыца заспявае. У канцы лета, калі на скошаных парыжэлых паплавах, дзе кусціліся бухматыя стагі сена, збіраліся ў шумныя чароды шпакі, а над вёскаю з самага ранку чуўся развітальна-самотны busліны клёкат, на Макейчыкаў абрынулася гора. Пасля абеду, калі сонейка яшчэ моцна прыпякала, пайшоў Міша з такімі ж, як ён сам, хлопчыкамі на сажалку, якая знаходзілася на выгоне заканюшняй і, купаючыся ў ёй, утапіўся. Ніхто з дарослых у той час не быў каля сажалкі і не бачыў, як такое здарылася. Сікстэла пасля смерці сына хадзіла як ачмурэлая, а праз тыдзень сабралася і, ні слова не сказаўшы Лявону, з'ехала ў Карэлію, на сваю Радзіму. Назаўсёды.

Высока-высока, дзе патаналі ў блакіце неба і зрэдку плылі невялікія празрыстыя аблачынкі, зырка прамяніста свяціла сонца. Макейчык перавярнуўся на другі бок, зірнуў на Кадзіка з дзяўчынай, якія непадалёку ад яго пілі пад вярбою каньяк, і твар яго ўва-

# ЛЯВОН МАКЕЙЧЫК

Янка ГАЛУБОВІЧ



чавідкі спахмурнеў, гнеўна здрыгануліся і сышліся на пераносіцы густыя парыжэлыя бровы.

Не да каньяку было ў маладыя гады Макейчыку. Як толькі скончыў восем класаў, падаўся ў вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі. Правучыўся год, вярнуўся ў родны калгас і сеў вясною на трактар. Браў у торбачку акраец хлеба, бутэльку малака і рана-раненька, ажно за сем вёрст, на балота, дзе поле пад авёс рыхтаваў, спяшаўся. Вяртаўся дамоў позна вечарам, ні ног, ні рук не чуючы, не падазраючы, што бяда, нібы той цень, увесь час хадзіла за ім следам.

А здарылася вось што. Аднаго разу, калі Макейчык на машынным двары запраўляў палівам свой трактар, падышоў галоўны аграном Вадзім Гаўрыленка, грузны, з двайным падбародкам, дзябёлы, што з гліны зляплены, і папрасіў падкінуць яго ў праўленне. Тое праўленне знаходзілася ад палявога стану вярсты за чатыры. Лявон пачаў пярэчыць, але Гаўрыленка, на ружовых шчоках якога выступілі сінія плямы, ужо не прасіў, а загадваў, як адрэзаў: "Хто тут начальнік, я ці ты? Вось калі станеш галоўным аграномам, тады і камандаваць будзеш!"

Ён адштурхнуў Лявона, падняўся на сядзенне і сеў за руль. Трактар ціха крануўся з месца і, абмінаючы эстакаду, бочкі з салідолам і цыстэрну з палівам, выкаціўся на палявую дарогу. Гаўрыленка ўключыў пятую хуткасць і прыбавіў газу. "Беларус" здрыгануўся, ірвануўся наперад. На вялікай хуткасці ўляцеў у вёску, вільнуў у адзін, другі бок. У Лявона пахаладзела і ўпала сэрца. "Няўжо п'яны? Як гэта адразу я не заўважыў?"

— Стойце! Спыніце трактар! Чуеце!..

Апошніх слоў Лявон дакрычаць не паспеў. Моцны ўдар, як катапульта, выкінуў яго з сядзення далёка ўперад. Летучы, ударыўся галавой аб ліпу і, як мяшок, асунуўся на зямлю. Страшэнны боль працяў цела. У вачах замільгацелі вясёлкі. Услед за імі Лявон праваліўся ў цёмную, як дзёгаць, цемру. Ён страціў прытомнасць.

Пяць месяцаў праляжаў Макейчык у бальніцы. Калі косці левай нагі пацыху зрасліся, то правую, усю патрушчаную, якую хірургі спачатку хацелі адняць зусім, прыйшлося зноўку "ламаць" і састаўляць нанова. Так і засталася яна на ўсё жыццё крывой, як дуга.

А Гаўрыленка выкруціўся, усю віну спіхнуў на Лявона. Маўляў, ён сам за рулём сядзеў. Забыўся нават пра тое, што бацька Лявона, Пятрук, шыракаплечы мужчына, яшчэ здаровы, як Жабацінскі, калі дапамагаў яму, Гаўрыленку, будаваць новую, вялізную, што стадола хату, падарваўся, цягаючы бёрны, і праз два месяцы, знямоглы, з жоўтым мерцвяным тварам аддаў Богу душу.

Злосць на Гаўрыленку не пакідала Лявона. Сціснулася, зашчымела ў грудзях сэрца, на вочы нагарнуліся слёзы. "І Кадзік, сынок-пестунок, як дзве кроплі вады, на бацьку падобны, — Лявон падняўся і пачаў нацягваць на сябе штаны. — Нядаўна збіў "Мерседэсам" пенсіянерку Агату Ценцявіцкую. Зламаў жанчыне ногі, пашкодзіў пазваночкі і з месца здарэння ўцёк. Яго, падлюку, вядома ж, адшукалі. Але што з таго! Патрымалі тры дні ў міліцыі і выпусцілі. Ценцявіцкая, маўляў, не ў тым месцы дарогу пераходзіла, ды й вочы ў старой слабыя, невідушчыя. Во, якое дзела... А дзе ў яго, Кадзіка, вочы былі? Агата ў бальніцы ляжыць, а ён, злыдзень, дзячат мацае. Пэўна, некаму бацька добра лапу пазалаціў".

— Ха, ха, ха... Ой, Кадзік, не магу, шчакочышся... Ой, здурэў, — разам з лёгкім ветрыкам даляцеў да Макейчыка ўзбуджаны, радасны голас дзяўчыны, і Лявон павярнуў галаву назад. Кінуў вокам на вярбу і ажно аслупянеў ад убачанага. На траве каля кустоў валялася апарожненая з-пад каньяка бутэлька. Дзяўчына, мусіць, добра захмялела, ляжала на посцілцы, раз-пораз дрыгала нагамі, а Кадзік, абшчапераўшы сваю знаёмую за талію, цалаваў яе ў голыя цыцкі. Па чарзе: то ў адну, то ў другую.

— Ну, і дзікуны! — скрывіўся, нібы ад зубнога болю, Макейчык і тут жа адвярнуўся, каб і не бачыць іх.

2

Схавалася за лес сонца і на зямлю паціху, непрыкметна пачаў апускацца шэры морак.

Абыходзячы машынны двор, Лявон убачыў на лаўцы каля гаража мужчыну. Рыхлага, на добрым падпітку, круглатварага, з агніста-рыжай чупрынай. Гэта быў Вадзім Гаўрыленка. Побач з ім сядзела хударлявая, быццам дзяўчо-падлетак, даярка Зоська Купрэйчык. Крыху далей, дзе ляжалі дзве кучы цэглы і стаяў Гаўрыленкаў "уазік", сноўдаліся, што сонныя мухі, Рыгор Кабуховіч і Сцяпан Кацеба з будаўнічай брыгады.

— Тваё заляцанне, Вадзім, мне як сярпом па адным месцы. Да мяне Сцёпка Стэпчын ходзіць... Чалавек някепскі... — збіваючыся на шапялявы голас, прамовіла Зоська і адсунулася ад Гаўрыленкі.

"Во, галава і два вухі, і яна п'яная. Не можа без гарэлкі", — жахліва падумаў пра Зоську Лявон.

— Кожная курка свайго пеўня хваліць. Навошта табе гэты Сцёпка. Галота адна; а ў мяне грошай мяхі, — данёсся да Лявона голас Гаўрыленкі.

— Ат, не мялі языком! — адмахнулася Зоська і запела:

Шумяць вербы каля грэблі,
Што я пасадзіла...

Раптам Гаўрыленка ўсхапіўся на ногі, ухапіў Зоську за плечы і паваліў на лаўку. Валтузячыся, яны зваліліся на зямлю, і Гаўрыленка, стаўшы перад Зоськай на каленях, стаў увішна задзіраць на ёй спадніцу.

Кабуховіч з Кацубам, убачыўшы такое, выбухнулі рогатам, а Макейчык, сцяўшы зубы, пачаў таропка набліжацца да Гаўрыленкі.

"Што ты робіш, старая порхаўка... Ужо зусім мазгі адпіў..." — Лявон ухапіў Гаўрыленку за чупрыну і адцягнуў яго ад жанчыны.

Гаўрыленка цяжка соп, вочы ўміг пачырванелі, наліліся шалёнай злосцю.

— Гэта ты, крываногі... ды я цябе ў парашок сатру... — прасіпеў ён, нібы гадзюка, падхапіўся на ногі і, хістаючыся, размахваючы рукамі, пайшоў у наступ на Макейчыка.

Лявон спрытна ўхапіў каля лаўкі паўцагліны.

— Паспрабуй, гад!.. Тады паглядзім, хто каго ў парашок сатрэ...

На Гаўрыленку гэтая пагроза падзейнічала. Ён нерухома застыў на месцы, мацюкнуўся на чым свет стаіць і, як пабіты сабака, пацёгся да свайго "уазіка".

— Папомніш мяне, крываногі... Будзеш як вуж на патэльні круціцца. Заўтра і з машыннага двара вытуру, — пырскаючы слінай і трымаючыся за дзверцы "уазіка", гразіўся Гаўрыленка.

Але Лявон не слухаў яго. Ён дапамог падняцца Зосьцы, узяў яе пад руку. Ад жанчыны несла цяжкім смярдзючым перагарам.

— Дзе ты напілася, Зоська? — строга спытаў Лявон.

— Ён, рыжы, паставіў. Спачатку пляшку гарэлкі, а потым хацеў...

— А ты для чаго свой кацялок на плячах носіш? — тузануў Зоську за руку Лявон. — Знайшла з кім звязвацца. Хіба Гаўрыленку не ведаеш?

— Чаму ж не, ведаю... Але ж нічога не было, не паддалася яму, — ціха, амаль шэптам, ледзьве перастаўляючы ногі, адказала Зоська.

Нейкі час, моцна трымаючыся за Лявонаву руку, яна ішла моўчкі, а потым спытала:

— Куды ты вядзеш мяне, Лявонка?

— Да сябе, у вагончык. Куды цябе пускаць такую, сярод ночы. Прападзеш...

— Ага, праўду кажаш, Лявонка, — пагадзілася Купрэйчык.

У вагончыку Зоська лягла на тапчан, які стаяў каля самай сцяны пад невялікім вузкім акенцам, а Лявон зняў з сябе пінжак і паклаў ёй пад галаву.

— Ляжы, адпачывай, — мяккім голасам сказаў ён. — Як кажуць: пераначуем — нешта новае пачуем. Толькі болей не пі. Добра, Зоська, га? Сорам жанчыне піць...

Зоська ад адказу ўтрымалася, доўга маўчала, а потым уздыхнула на поўныя грудзі, сказала:

— Цесна ў цябе тут, Лявонка.

— Нічога, нічога, спі... У цеснаце, ды не ў крыўдзе, — адказаў Лявон, папраўляючы ёй пад галавой пінжак.

Тым часам сцямнела. У небе, па якім плылі шэрыя хмары, дзе-нідзе ярка ірдзелі буйныя, па кулаку, мігатлівыя зоркі. Зрэдку ў вагончык даносіўся слабы рокат грому.

Зоська Купрэйчык, рассунуўшы ўбачкі рукі і цяжка дыхаючы, быццам ёй на грудзі камень паклалі, ужо спала. А Лявон Макейчык усё сядзеў на самых дзвярах на табурэцы, не зводзячы вачэй з яе бледна-жоўтага твару і думкі, нібы тыя назойлівыя мухі, не давалі яму спакою, варушылі памяць.

...Лявон ведаў Зоську даўно. Яшчэ з таго часу, калі яна прыехала ў вёску пасля тэхнікума і стала працаваць заатэхнікам. Невысокая, кругленькая, з тоненькай русявай касой на грудзях. Выйшла замуж за Паўлюка Тванчыка, трактарыста. Хлопца добрага, талковага. Нават каплі гарэлкі Паўлюк ніколі не браў. Сынок у іх нарадзіўся, Коля. Ды здарылася так, што Зоська, як тая зязюлька, адна засталася. Яе Паўлік перакуліўся з трактарам у канаву. З ім сынок якраз у той час у кабіне сядзеў. Тры гадочкі ўсяго хлопчыку было. Абодва загінулі.

Запіла Зоська з гора. Праўда, праз колькі гадоў, калі прыняла да сябе прымаку, перасяленца з чарнобыльскай зоны Рыгора Дубняка, піць перастала. А калі ў іх нарадзілася дачушка, без ніводнага пальчыка на левай руцэ, абвінаваціла ў гэтым чарнобыльца. Рыгор кудысьці з'ехаў, а Зоська зноў стала ў чарку заглядваць.

"А дачушка, Аленка яе!.. Божа!.. Яна ж дома адна засталася..." — стукнула па Лявону, нібы гром, згадка.

Як кіпнем абліты, ён падхапіўся з табурэцкі. Глянуў у акно вагончыка пад страхой якога ярка гарэла электрычная лямпачка. Даўно ішоў дождж, бо каля вагончыка ўжо стаялі невялікія лужынкі вады, а ў іх увішна скакалі бурбалкі.

Але гэта не спалохала Лявона. Ён ускінуў на плечы плашч і выскачыў за дзверы. Пакуль натрапіў на гасцінец, ішоў наўздагад, бо збіўся з дарогі. Блакітныя полахі маланак, асвятляючы яму шлях, безупынку крамсалі неба, адзін за адным бухалі перуны.

Калі апынуўся ля Зосьчынай хаты, узрадаваўся: у вокнах яшчэ гарэла святло. Спачатку сігануў на свой падворак, бо Лявонава хата стаяла цераз вуліцу насупраць Зосьчынай. Хуценька дастаў са шкафчыка на кухні цэлафанавы мяшэчак з цукеркамі-падушачкамі і, ні на хвіліну не затрымліваючыся ў хаце, зноў выскачыў на двор, пад дождж.

У першай палавіне Зосьчынай хаты стаяла вялікая, з жоўтымі пісягамі, даўно не беленая печ, а шпалеры на сценах былі абшарпаныя, спрэс заседжаны мухамі.

Лявон павесіў каля печы на цвік плашч, прыгладзіў на галаве мокрыя валасы, і ступіў у другі пакойчык, невялікі і вузкі, нібы калідор, які быў адгароджаны ад кухні дашчатай сцяною. Тут стаяў высокі, засланы карычнева-шэрай посцілкай, жалезны ложак. На ім у кароценькай сукенчацы, раскінуўшы тонкія, што сцяблінкі, рукі спала Аленка. Тварык у дзяўчынкі хваравіты, бледны, на доўгай худой, як у птушаняці, шыйцы выступаюць празрыстыя сінія жылкі. Валасікі на галоўцы русявыя, як і ў Зоські.

Макейчык пагладзіў Аленку па галаве. Яна заплюскала вейкамі і прачнулася. Села на ложку, абхапіла ручкамі каленцы, спытала:

— Дзядзька Лявон! А маці мая дзе? Чакаю яе, прычакаць не магу.

І гэтулькі было суму, трывогі ў вялікіх блакітных вачах дзяўчынкі, што Макейчык захваляваўся. Ён адчуў, як пачалі дробна ўздрыгваць яго рукі, як ударыла ў скроні, мацней запульсавала ў жылах кроў, а вочы сталі мокрыя ад слёз.

Лявон нізка схіліўся над дзяўчынкай, прыхінуў яе да сябе, спакойным, як нічога не было, голасам сказаў:

— Не хвалюйся, Аленка. Пакуль прыйдзе маці, я з табою пабуду. Я табе во цукерак прынёс, падушачак. Любіш, Аленка, такія цукеркі?

— А як жа, дзядзя Лявон, люблю, вельмі... — узрадавалася дзяўчынка. — Яны салодкія, як мёд. Маці аднойчы мне купляла іх.

Аленка адкалупнула адну падушачку, укінула яе ў рот, зірнула на Лявона, і калі ён убачыў на твары дзяўчынкі ўсмешку, цёплую, ласкавую, што сонейка ў пагодлівы дзень, на душы ў Макейчыка адразу паспакайнела.

Аленка хутка заснула. "Зоська ў вагончыку праспіцца да раніцы, нічога з ёй не стане. А вось дзяўчынку адну пакідаць нельга", — падумаў Макейчык, выключыў святло і стомлена апусціўся ў крэсла.

3

Была якраз нядзелька і Лявон Макейчык прачнуўся ў гэты дзень на самым досвітку. Ён даўно збіраўся з'ездзіць у мястэчка Гарадок, на базар, купіць сабе кашулю, чаравікі, яшчэ тое-сёе, а заадно адведаць дваюрадную сястру Кацярыну, якая там жыла.

Злёгку паснедаўшы, ён зачыніў на замок хату і ступіў за веснічкі, на ціхую, нібы вымерлую, вуліцу.

"Трэба да Зоські заглянуць, мабыць, і яна захоча са мной на базар з'ездзіць", — падумаў Лявон, калі апынуўся ля суседчынай хаты і павярнуў на падворак.

Зоська таксама ўжо не спала. Яна стаяла каля вядра, якое вісела каля печы, і прагна піла з кубка ваду. Ні жывая, ні мёртвая.

— Зоська, чаго ў цябе так рукі трасуцца? Як усё роўна ў таго злодзея, што курэй пакраў. Няўжо зноў з чаркай зляцелася? — спытаў у жанчыны Макейчык.

—Ат, Лявонка, і не пытайся, — махнула рукой, заўсміхалася Зоська. — Конь на чатырох нагах і то спатыкаецца, а ў мяне ж усяго дзве. Прызнаюся табе, было.. Выпіла трохі...

— З кім?

— Гаўрыленка, як рапейнік, прыстаў...

Лявон заскрыгатаў зубамі і заходзіў тудысюды па пакоі. Ад злосці на Гаўрыленку ажно захадзілі па шчоках жаўлакі. Хацелася і Зосьцы сказаць штосьці дзёрзкае, нават ганебнае, але калі ён павярнуўся да яе, то ўбачыў, што яна з бледна-жоўтым тварам, трымаючыся рукой за жывот, апускалася ля печы на табурэт. Па шчоках жанчыны гарошынамі каціліся слёзы.

— Што з табой, Зоська? — спалохана спытаў Лявон, прытрымліваючы яе за плячо.

— У жываце што агнём пячэ і калоціць усю, як асінавы ліст, Лявонка... — ледзь чутна прамовіла Зоська і ціха заплакала.

Лявон дапамог легчы Зосьцы на ложак і кінуўся да дзвярэй, каб выклікаць "хуткую дапамогу", але яна спыніла яго, сказала, што рабіць гэта не трэба, бо такое з ёй ужо было не раз, але хутка праходзіць.

Ён паслухаўся, згатаваў на малацэ манную кашу, але Зоська есці адмовілася. Тады Лявон узяў яе за маленькую, як у школьніцы, худую далоньку і сказаў:

— Хрыстом-Богам цябе прашу, Зоська, — і стаў карміць яе сам, лыжачкай, як дзіцёнка.

Праз нейкі час Зоська задрамала, і каб не разбудзіць яе, Лявон паціху пасунуўся да дзвярэй. Але гаспадыня раптам заварушылася, сон у Зоські як рукой зняло.

— Лявонка, не пакідай мяне, пасядзі крыху, — папрасіла яна.

Лявон вярнуўся і прысеў на край ложка. Яны доўга маўчалі, а потым Лявон сказаў:

— Пераходзь Зоська да мяне з Аленкай жыць. Шанаваць буду вас, як Бога...

— Ты што, Лявонка, — перабіла яго Зоська. — Ха-ха-ха, — засмяялася яна. — Што ты будзеш са мною рабіць? Паглядзі на сябе, з цябе ж ужо парахонь сыплецца, а мне яшчэ хочацца ласкі, любові, калі хочаш ведаць...

Твар Лявона ўвачавідкі спапатнеў. Яго, быццам па целе ток пракаціўся, ажно скаланула ад пачутага.

Але хоць і крыўдлівы быў Лявон па натуры, крыўда гэтая хутка сыходзіла з яго душы. Праз хвіліну-другую ён зноў сказаў:

— Кароўку куплю, малачко для Аленкі будзе. Заступацца, шанаваць буду... — паўтараў ён сваё.

— Не ведаю, што і рабіць, Лявонка, — стоена адказала Зоська. — Добры ты чалавек, спагадлівы. Гэта для мяне як гром з яснага неба. Дай падумаць крыху... Не будзь такі нецярплівы. А, можа, ты ўкляпаўся ў мяне? Га? — Зоська зірнула на Лявона і шчыра, прыветліва яму ўсміхнулася.

Праз тыдзень, калі закацілася за лес сонца, сцямнела і на неба ўскаціўся пазалачоны ражок месяца, хтосьці моцна настойліва пагрукаў у акно Лявонавай хаты. Ён запаліў святло,падышоў да акна, адсунуў убок фіранку, глянуў у шыбіну і не паверыў сваім вачам. Пад акном стаяла жанчына. Невысокая, з вузкімі, як у дзяўчыны-падлетка, плечыкамі, худзенькая. Гэта была Зоська Купрэйчык.

У тую ноч Лявон перанёс да сябе няхітрыя Зосьчыны пажыткі.

У згодзе і радасці яны пражылі тры месяцы. А глухой восенню, калі нізка над зямлёй навіслі набухлыя ад дажджу хмары, Зоську паклалі ў бальніцу.

Доўга яна ляжала ў Бараўлянах. Вярнулася дамоў толькі вясною, на Звеставанне, калі ля іхняга дома на высокай старой ліпе буслы ўжо рабілі агледзіны сваёй буслянкі. Худзенькая, з доўгім завостраным носам і ліхаманкавым бляскам вачэй, Зоська нават ад ветру хісталася.

Лявон паіў Зоську сырадоем — у іх ужо была кароўка – і жонка праз некалькі тыдняў павесялела, зрабілася рухавай, позірк вачэй стаў спакойны, мяккі, а ў куточках вуснаў пачала з'яўляцца ледзьве ўлоўная ўсмешка.

Бачачы, што жонка ішла на папраўку, Лявон радаваўся. Але радасць яго, як той ранішні туман, хутка развеялася. Зосьцы раптоўна пагоршала і яе зноў паклалі ў бальніцу.

...Лявон Макейчык зграбаў ля Бярэзіны сена.

Жарыла як у пекле, пот выядаў вочы.

Лявон спаласнуў вадою твар, прысеў на купіну пад рабіну і ўбачыў, што да яго, махаючы рукой, спяшаецца па сцежцы Мікітка, сын паштальёнкі Марылі.

Адчуўшы нядобрае, у Лявона апусцілася, скамянела сэрца.

— Дзядзька Лявон! Маці прасіла перадаць, што цётка Зоська ў бальніцы памерла. Сёння раніцою... — як праз сон данесліся да вушэй Мікітавы словы.

Па шчацэ Лявона скацілася сляза, але Макейчык не заплакаў, здавіў плач унутры. Ён падняўся з купіны, глянуў на раку, якая, бытта вялізная рыбіна, падстаўляючы на пакатах пад сонца срэбную спіну, каціла між пакатых берагоў удалеч свае воды, падумаў: "Вось так і жыццё, як вада, цячэ. Толькі пражыць яго — гэта не поле перайсці. Ага, трэба ж Аленку з лагера забраць, — раптам схамянуўся ён. — Няхай з маткаю развітаецца".

Схаваўшы ў пракосе граблі, сутулены, стомлены ад нялёгкага жыцця, Лявон Макейчык пасунуўся з поплава.

дагогі-інструменталісты Барыс Нічкоў, Мікалай Крывашэеў, Віталь Волкаў, падтрымаў і дырэктар каледжа Уладзімір Кузьменка. Аляксандр Міхайлавіч Анісімаў аднойчы прыязджаў да нас на Вілію, паслухаў, зрабіў творчыя заўвагі (выканаўчая інтэрпрэтацыя, штрыхі).Рэгулярна бываў на мінскіх рэпетыцыях. А перад прэм'ерай ужо "ўзяў аркестр у свае рукі"...

•

Прафесар Анісімаў з яго велізарным досведам у правядзенні сцэнічных аркестравых канцэртаў ва ўмовах цяжкай акустыкі Вялікага тэатра здолеў зрабіць так, каб новы аркестр, склад якога на час прэм'еры павялічыўся амаль да сотні чалавек, пацешыў залу выразным і ёмістым гучаннем.

І публіка, і самі музыканты, і маладыя дырыжоры (якія, на жаль, апынуліся ў цэню эфектнай падзеі) чакалі абяцанага працягу творчага жыцця дэбютантаў. З гатовай праграмай калектыў мог бы праехаць па Беларусі, выступіць у тых жа музычных вучэльнях, адкуль "родам" яго ўдзельнікі. І наладзіць такое турнэ можна было б незалежна ад індывідуальных творчых планаў мастацкага кіраўніка: поруч з ім — двое калег, якія ўжо неаднойчы пацвярджалі сваю прафесійную годнасць за пультам сталічных філарманічных калектываў. А павандраваць па краіне з аркестрам, выпеставаным амаль уласнымі рукамі, — сам Бог наканаваў. Які быў бы стымул для музычнай моладзі!

Выдае на тое, што перспектыўная справа была толькі разовай акцыяй. Мінуў амаль год. Рэспубліканскі юнацкі аркестр за гэты час не збіраўся наогул (для падтрымання належнай прафесійнай формы, хаця б дзеля захавання рэпертуару "ў пальцах", мусіў бы збірацца разы чатыры на год). Калі працяг усё ж будзе, дык давядзецца пачынаць творчую новабудоўлю з нулявога цыкла.

Між тым, у Мінску за гэты сезон адбываліся канцэрты з удзелам усіх трох дырыжораў. Маладыя выступалі з "дарослымі" аркестрамі ды з юнымі беларускімі салістамі. Маэстра Анісімаў — з ужо вядомым С.Качатранам (вечар да 100-годдзя з дня нараджэння А.Хачатурана) і з А.Анісімавым-сынам, выхаванцам Парыжскай кансерваторыі. Так што клопат пра таленавітых дзяцей у музычнай атмасферы Мінска нібыта адчуваецца...

А што сказаў бы тамагочы? Ды...нічога. Без належнай увагі ён бы проста сканаў.

**С.БЕРАСЦЕНЬ**

***На здымку: лета 2002 г., Вілія: Я.СЦЕПАНЦОЎ, Я.АСНОВІЧ, А. АНІСІМАЎ.***



танчаць і больш сталыя, прагматычныя Пацехін (І. Мацкевіч), яго сын Мікалай (А. Душачкін), Вольга (Г. Маланкіна), Мядзведзева, маці Зіны (Б. Масумян), Самаквасаў (А. Захарэвіч). Сон Косці, зроблены ў чырвона-крывавых танах, нясе між іншым не ідэю блізкай рэвалюцыі, а сутнасць чалавечай душы: трапяткой, лёгкай, у шмат чым — "дзівацкай". Усе акцёры складаюць непаўторны, дынамічны ансамбль, тут кожны герой запамінаецца ( асабліва хочацца адзначыць вобраз маці увасоблены Б. Масумян) дзякуючы адметным дэталям, знойдзеным акцёрамі ў прадстаўленні сваіх персанажаў...

На жаль, М. Горкі заўсёды лічыў Беларусь часткай Расіі, Паўночна-Заходнім краем. Але праблемы чалавечага быцця, філасофскія пытанні, маўляў, да якое пары мы будзем бязвольнымі, бескалапотнымі матылькамі, рабамі, а не гаспадарамі свайго лёсу і самае галоўнае — лёсу Бацькаўшчыны, здаюцца сёння такімі надзёнымі для беларускай сцэны.

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

**На здымках: сцэны са спектакля**

***Фота Г. Жынкова***

**ВЫСТАВЫ**

***Мастакоўскія далягляды ў адрозненне ад звычайнага чалавека заўсёды шырэй. І гэта не дзіўна, бо мастак наш свет можа глядзець з вышыні птушынага палёту. Што гэта так, маглі пераканацца гледачы, наведаўшы выставу жывапісу "Жывая зямля" Фёдара Ястраба, якая праходзіла ў мастацкай галерэі БДУ культуры, што ў Палацы Рэспублікі.***





# З ВЫШЫНІ ПТУШЫНАГА ПАЛЁТУ

Усяго год прайшоў з персанальнай выставы Ф. Ястраба ў сталічнай галерэі "Золата". Але ён аказаўся плённым для мастака.

Па розных гарадах Бельгіі — Остэндэ, Корттрыйк, Эдэм, Гент, Кортэмарк прайшло восем персанальных выставак жывапісу майстра. Упершыню для беларускага мастака былі адчынены дзверы прэстыжнай галерэі фламандскага парламента, а куратарам яго персанальнай выставы быў старшыня камітэта па культуры фламандскага парламента. Сам жа аўтар быў удзельнікам і куратарам вялікай выставы беларускага мастацтва ў г. Остэндэ...

На выставе "Жывая зямля" ў Палацы Рэспублікі аўтар экспанаваў працы, выкананыя за апошні год.

У параўнанні з мінулагоднім выставай бачна, як змянілася стылістыка твораў, манера выканання. Гэта яскрава сведчыць пра тое, што аўтар не прыпыніўся ў сваіх пошуках, многа эксперыментуе.

Большасць твораў цыкла "Жывая зямля" адметныя сваёй вытанчанай тэхнікай, каларыстычным багаццем, цікавымі кампазіцыйнымі вырашэннямі. Аўтар у сваіх палотнах не цураецца фігуратыўнасці, а хутчэй наадварот, творы гэтага цыкла праграмна фігуратыўныя. Міфы гісторыі і міфы паўсядзённага быцця, гармонія і прыгажосць свету і самыя патаемныя жаданні чалавека, яго комплексы і прага рамантыкі — вось кола вобразаў і тэм мастака.

Мастак і галерыст, аўтар і прадзюсер шматлікіх праектаў Фёдар Ястраб браў удзел больш чым у 60-ці выставах на радзіме і за мяжой.

Яго творы захоўваюцца ў музейных і прыватных зборах Беларусі, Расіі, Польшчы, Бельгіі, Германіі, Італіі, Нарвегіі і Галандыі.

Напрыканцы мая ў памяшканні Міністэрства замежных спраў адкрыецца новая выстава Фёдара Ястраба.

**Н. К.**



**"МАЛАДЗЕЧНА-2003"**




# І ТЧЭЦЦА РАДНО ПАМЯЦІ...

***Повязь мастакоўскіх традыцый на Маладзечаншчыне даўняя, сягае ў глыбіню стагоддзяў, ідзе, напэўна, ад часоў Францішка Скарыны. Толькі лёс тых творцаў, як і іхніх мастацкіх работ, незайздросны. Разрабаваныя, знішчаныя, вывезеныя шматлікімі акупантамі з роднай зямлі, яны назаўжды страчаныя для нашага народа.***

А ў свой час работы выключнага мастацкага характара меліся ў Хоўхлаве, Лебедзеве, Маркаве ды іншых населеных пунктах. На вялікі жаль, не дайшлі да нашчадкаў вялікія мастацкія галерэі, якія знаходзіліся ў панскіх палацах Гарадзілава, Беніцы, Маліноўшчыны. Праўда, яшчэ і сёння можна пабачыць некаторыя з тых мастацкіх палотнаў у старадаўніх храмах. Прыкладам, у трохсотгадовай драўлянай царкве ў Насілаве захавалася да нашых дзён "Мадонна з немаўляткам", напісаная яшчэ ў XVII стагоддзі. Знаходзіцца сёе-тое і ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі...

І ўсё ж, нягледзячы на спусташальныя войны, неспрыяльныя ўмовы, рэпрэсіі, повязь мастакоўскіх традыцый на Маладзечаншчыне ніколі не перарывалася, а перадавалася з пакалення ў пакаленне. Маладзечанская зямля здаўна славілася выдатнымі і цікавымі мастакамі, якія тут альбо нарадзіліся, альбо жылі ці працавалі. Прыкладам, у Дубравах, на паўднёвай ускраіне мястэчка, яшчэ і цяпер захаваліся вялікія будынкі колішняй сядзібы Ваньковічаў, а з іх роду выйшаў вядомы беларускі мастак XIX ст. Валенцій Ваньковіч. Дзіцячыя гады Іосіфа Аляшкевіча прайшлі ў Радашкавічах, дзе яго бацька працаваў музыкантам. У сценах Маладзечанскага павятовага вучылішча вучыўся Мікадзім Сільвановіч, які ў далейшым займаўся аздабленнем і афармленнем Ісакіеўскага сабора ў Санкт-Пецярбургу, быў аўтарам шматлікіх партрэтаў і тэматычных карцін. Першым выкладчыкам малявання ў вышэйназванай навучальнай установе быў Аляксей Зорка, выдатны мастак і музыкант. На працягу амаль двух гадоў (1925-1926) у Радашковіцкай беларускай гімназіі імя Ф.Скарыны працаваў выкладчыкам малявання Язэп Драздовіч, асоба ў Заходняй Беларусі легендарная. Маленькай радзімай для Рамана Семашкевіча, мастака, які праславіў беларускае выяўленчае мастацтва ў XX стагоддзі было Лебедзева. У Маладзечне, у сям'і беднага яўрэйскага рамесніка, нарадзіўся Мэер Аксельрод, вядомы кніжны графік. Дзесяткі гадоў кіраваў студыяй выяўленчага мастацтва ў п.Бярэзінскае Мікалай Шчалканогаў. З вёскі Літва паходзіць вядомы жывапісец, член Саюза мастакоў Беларусі Кастусь Харашэвіч, а з суседніх Палачанаў – Уладзімір Тамашэвіч. Роднымі для мастакоў Васіля Лазоўскага і Генадзя Селядца з'яўляюцца адпаведна Татаршчына і Чысць. Доўгія гады жыцця звязвалі і звязваюць з маладзечанскай зямлёй Юрася Герасіменку-Жызнеўскага, Міколу Аўчыннікава, Алеся Пашкевіча, Рыгора Мяжуева, асоб па-сапраўднаму неардынарных, цікавых, у мастакоўскім асяроддзі паважаных. Патрыярхамі і заснавальнікамі беларускага мастакоўскага жыцця на Маладзечаншчыне ў XX стагоддзі былі аўтар адухоўленых нацюрмортаў і арыгінальных жывапісных палотнаў Ядвіга Раздзялоўская і цудоўны партрэтыст і графік Зміцер Крачкоўскі. Ураджэнцам Маладзечна з'яўляецца Лявон Дударанка...

Творам маладзечанскіх мастакоў характэрна непасрэднасць, шчырасць пачуцця, заміланасць да сваіх каранёў, спрадвечная цяга да ўсяго роднага, блізкага і зразумелага. На іх палотнах ажываюць утульныя куточкі старых вёсак і мястэчак, помнікі архітэктуры, незвычайна прыгожыя мясціны нашай Маладзечаншчыны. Акцэнтуючы ўвагу гледача на адной хаціне, адным хутары, млыне ці будынку, паказваючы спрадвечную прыгажосць старадаўніх храмаў, мастакі даюць магчымасць адчуць, што за гэтымі, здавалася, такімі немудрагелістымі і штодзённымі з'явамі пачынаецца твая Радзіма. Карціны маладзечанскіх мастакоў – гэта настальгічная згадка, шчымлівы роздум пра сваю зямлю, пра свой край.

**Міхась КАЗЛОЎСКІ**



На здымку: В. Лазоўскі, М. Аўчыннікаў, К. Харашэвіч, Р. Мяжуеў, У. Тамашэвіч і С. Пятроў.



# ПРАПАНУЕ ВЫДАВЕЦТВА «НАРОДНАЯ АСВЕТА»




***Выдавецтва "Народная асвета"***
***220600, г. Мінск, пр. Машэрава, 11.***
***Тэл.: (017) 223-89-25; факс 223-61-84.***
***Разліковы рахунак 3012202410016***
***у Маскоўскім аддзяленні Белінвестбанка***
***г. Мінска, код 741.***




**Чалавек і свет у 2-м класе. Вучэб.-метад. дапам. Для настаўнікаў. 191с.**
Дапаможнік да курса "Чалавек і свет" знаёміць з асаблівасцямі вывучэння раздзелаў "Прырода і чалавек", "Чалавек і грамадства", "Чалавек і яго здароўе". Прапануюцца прыкладныя метадычныя рэкамендацыі па правядзенні ўрокаў.

**Багадзяж М. Сыны зямлі беларускай. 96 с.**
Што мы ведаем пра князя Мсціслава Храбрага? Іншая справа — Яраслаў Мудры, сын Рагнеды... Але ж і Мсціслаў — яе сын, якога праслаўвілі ў сваіх творах і Баян, і аўтар "Слова пра паход Ігаравы"... Пра Мсціслава Храбрага, Давыда Гарадзенскага, Канстанціна Астрожскага і іншых слынных сыноў зямлі беларускай распавядаецца ў гэтай кнізе.




В.П. Красней Я.М. Лаўрэль
ДЫДАКТЫЧНЫ МАТЭРЫЯЛ ПА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ
4 клас

**Красней В. П. Дыдактычны матэрыял па беларускай мове 4-ы кл. 175 с.**
Прапануюцца заданні і практычныя матэрыял, які накіраваны на развіццё самастойнасці вучняў, на актыўнае авалодванне пэўнымі ведамі, уменнямі і навыкамі па роднай мове.




**М. А. Лазарук, А. Я. Ленсу. Слоўнік літаратуразнаўчых тэрмінаў. 11 арк.**
Слоўнік уключае тэрміны, што сустракаюцца вучням пры самастойным чытанні. Тлумачэнні ілюструюцца прыкладамі з літаратуры.




**Гісторыя Беларусі XVI—XVIII стст.: хрэстаматыя для 7 кл. Дапам. для настаўніка. Пад рэд. П. А. Лойкі. 123 с.**
У хрэстаматыі змешчаны дакументы, якія падабраны ў адпаведнасці з праграмай па гісторыі Беларусі XVI—XVIII стст. Для сярэдняй агульнаадукацыйнай школы. Кожную тэму суправаджаюць кароткія каментарыі. Старажытныя іншамоўныя і цяжкадаступныя тэксты адаптаваны для ўспрымання.

### РЫХТУЮЦЦА ДА ДРУКУ

**Сабалеўскі А. Кандрат Крапіва: Нарыс жыцця і творчасці. 13 арк.**
У кнізе асвятляецца жыццёвы і творчы шлях Кандрата Крапівы. На аснове аналізу многіх тэкстаў вызначаюцца асаблівасці творчай манеры пісьменніка, мовы, адметныя рысы яго майстэрства. Адрасуецца вучням старэйшых класаў, студэнтам і ўсім тым, хто цікавіцца роднай літаратурай.

**Навуменка І. Якуб Колас: Нарыс жыцця і творчасці. 11 арк.**
У кнізе разглядаецца творчасць Якуба Коласа як дарэвалюцыйнага, так і савецкага часу. Вялікая ўвага ўдзяляецца ідэйнаму зместу, паэтыцы, асаблівасцям сюжэта, кампазіцыі, мовы, раскрываецца роля вялікага паэта ў станаўленні роднай літаратуры.




**Ковалева Е. С. Сборник диктантов по русскому языку: 8—9 кл. 239 с.**
Тэксты для дыктовак узяты з твораў рускай літаратуры XIX—XX стагоддзяў.




**Лаптенок С. Д. Этика и этикет. 239 с.**
У кнізе разглядаюцца пытанні этыкі, праблемы маральнасці асобы ў грамадстве і паўсядзённым жыцці.




**Я за солнышком иду. Пособие для учащихся нач. кл. общеобразоват. шк. Сост. В. М. Вдовиченко. 199с.**
Гэта кніга — падарожжа ў дзівосны свет прыроды. Яна знаёміць чытачоў са з'явамі прыроды, з жыхарамі лясоў, палеткаў, рэк і азёр Беларусі і іншых краін.

БИОЛОГИЯ
1 2 3

**Биология. Кн. для уч. В 3 книгах. Пер. с нем. Под общ. ред. доктора биологии, доцента К. Певз-Хоке и доктора биологии, профессора Э. Цабель. 296 с.**

**ВІНШУЕМ!**

***25 мая лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі, сааўтару тэксту Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь Уладзіміру Карызну спаўняецца 65 гадоў.***
***Прызнанне да Уладзіміра Карызны прыйшло менавіта як да паэта-песенніка. Яго вершы былі пакладзены на музыку такімі знакамітымі беларускімі кампазітарамі, як І. Лучанок, Ю. Семяняка, Э. Зарыцкі, Л. Захлеўны, Я. Глебаў, У. Буднік і многія інш.***
***Нарадзіўся паэт у вёсцы Закружка Мінскага раёна. Закончыў філфак БДУ ў 1961 годзе. Выкладаў рускую і беларускую мову і літаратуру ў школе на Браслаўшчыне (1961—1967). Потым працаваў на Рэспубліканскім радыё (1967—1980). Быў рэдактарам аддзела часопіса "Полымя" (1980—1981), старшым рэдактарам, загадчыкам рэдакцыі выдавецтва "Юнацтва" (1981—2002), намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Крыніца".***
***Першы верш апублікаваў у 1956 годзе. Аўтар паэтычных зборнікаў "Край мой сінявокі", "Святло ліўня", "Шумяць вербы" і інш.***
***Сардэчна віншуючы Уладзіміра Іванавіча з юбілеем, зычым яму здароўя, творчага неспакою і плёну.***

**Уладзімір КАРЫЗНА**




## ВАЛЬС ВЕРНАСЦІ

*На досвітку, раненька-рана*
*Луг свеціцца чыстай расой.*
*Пяюць салаўі несціхана*
*У звонкім гаі над ракой.*

*Над краем у сіні азёрнай*
*Зара маладая ўстае,*
*І гаснуць світальныя зоры*
*У светлых праменнях яе.*

*А сэрца юначае насцеж*
*Адкрыта красе дарагой.*
*Якое харошае шчасце —*
*Ісці па зямлі веснавой!*

*Душа, як вясна, расцвітае.*
*І хочацца ўсіх мне абняць,*
*Любімаму роднаму краю*
*І сэрца, і думы аддаць!*

1968 г.

## АСЕННІ НАКЦЮРН

*Непрыкметна туманы*
*разнеслі цяпло,*
*І цяпер жураўлям цёплы міг*
*не вярнуць,*
*Быццам лета пад небам зусім*
*не было,*
*А са свету ўсяго к нам дажджы*
*ўсё ідуць.*

*Светла веру ў зару, светла веру*
*ў любоў,*
*Што ад сонца ярчэй, гарачэй*
*ад агнёў,*
*У праменнях любові далёка відаць, —*
*Я такую любоў не стамлюся*
*шукаць.*

*Дагарае каліна ў сінечы рачной,*
*Лес мацней зашумеў, змрок*
*світальны напеў.*
*Ні ў чаромхавым царстве вясёлай*
*вясной,*
*Ні ў асенніх дажджах я цябе*
*не сустрэў.*

*Знелюбела хмурыны глядзяць*
*з вышыні,*
*Пачарнеў мокры сад, адляцеў*
*кветак рой.*
*Хітра восень на сцежках*
*расклала агні,*
*Разлілася па сэрцы халоднай журбой.*

*Светла веру ў зару, светла веру*
*ў любоў,*
*Што ад сонца ярчэй, гарачэй*
*ад агнёў,*
*У праменнях любові далёка відаць, —*
*Я такую любоў не стамлюся*
*шукаць.*

1972

## ПАЧАКАЙ МЯНЕ

Валянціне Пархоменцы

*Каля вербачкі цячэ рэчанька,*
*Пачакай мяне, лета-лецейка,*
*Лета-лецейка прамяністае,*
*Нібы рэчанька тая быстрая.*

*Беражкі яе адмысловыя,*
*А вакол лугі ўсё шаўковыя,*
*Раса свеціцца ды не золкая,*
*Тайна шэпчуцца зорка з зоркаю.*

*Пачакай мяне, лета мятнае,*
*Бо пшанічанька не дажатая,*
*Яшчэ ў полі я не стамілася,*
*Каб інакш было — не прасілася б.*

*Каля вербачкі цячэ рэчанька,*
*Пачакай мяне, лета-лецейка,*
*Лета-лецейка прамяністае,*
*Нібы рэчанька тая быстрая.*

1982

## ШЧЫРАЯ МАЛІТВА

*Божа праўдзівы,*
*Божа ласкавы,*
*Любіш ты, знаеш*
*Добрыя справы.*
*Дай нам здароўя,*
*Працу і сілы,*
*Каб ліхадзеі*
*Нас не скарылі.*

*Дай нам вадзіцы*
*З чыстай крыніцы,*
*Жыўнага хлеба,*
*Светлага неба.*
*Вызвалі нашы*
*Душы з атруты,*
*Тыя, што сёння*
*Немаччу скуты.*

*Божа ласкавы,*
*Дай нам натхнення,*
*Каб засвяцілі*
*Шчасця праменні,*
*Каб красавалі*
*Вёсны і зімы*
*І не хмурнелі*
*Вочы Радзімы!*

1997

## РАНА-РАНЕНЬКА КАЛЯ ХАТЫ ДЗЯЦІНСТВА

*Гэта вішні цвітуць?*
*Можа, казачна снежныя гурбы,*
*Бо нібыта завеі з-пад сэрца*
*мятуць —*
*І дрыжаць ад марозу губы.*

*Пра цяпло думкі прэч!*
*Вунь у снезе схавалася хата, —*
*Недзе мама распальвае печ...*
*Недзе тата ў гурбах з лапатай...*

*Падышоў да дзвярэй —*
*там іржавы слясак...*
*Клямку дужкай замок прыціскае...*
*Зазірнуў у калодзеж —*
*вада, як сляза,*
*Што дайно налілася... жывая.*

2003 г.

## ЧАС

*Дождж сыпане —*
*А здаецца: няйначай*
*Лета слязьмі безвыходнымі*
*Плача.*

*Яблыкі восень*
*У цемры зрывае —*
*Быццам бы хтосьці*
*"Лімонкі" шпурляе.*

*І не мяцеліца*
*Свішча і скача —*
*Зімачка*
*Белым заходзіцца плачам.*

*З крыкам вяртаюцца гусі*
*Вясною —*
*Быццам сірэны*
*Равуць над табою.*

*Ночкай не спіцца,*
*І мне прыгадалася,*
*Як усё гэта*
*Калісьці смяялася.*

2003 г.

## «МАНЕКЕНЫ»

*Зусім не з гліны, а з пены,*
*Што хваля намыла рачная,*
*Зleплены "манекены" —*
*Парода, скажу вам, такая.*

*Спрытна пераапрануцца —*
*О, тут іх талент у сіле!*
*І ў чорта яны абярнуцца,*
*Абы ім за гэта плацілі...*

2003 г.

## СЛЁЗЫ ЗЯМЛІ

*Крыніцы —*
*Слёзы Зямлі, —*
*Ці не таму чужаніцы*
*Іх "выцікалі",*
*Што гэтыя слёзы*
*Для нас*
*Тою сілай былі,*
*З якой ворагаў білі мы*
*І зямліцу аралі!*

2003 г.

## ПРЫСВЯЧЭННЕ ПЕСНІ

Трыпціх

1

*Без добрай песні*
*Долі не збудуеш,*
*Тым больш,*
*Калі ў кішэнях ні рубля.*

*Душу зруйнуеш*
*І жыццё змарнуеш,*
*І стане табе*
*Горкаю Зямля,*

*Зямля,*
*Якую з далечы і зблізку*
*Прынеслася знішчаць*
*Ліхая тля...*

*А песня наша —*
*Велеса калыска,*
*Такая ж,*
*Як і родная Зямля.*

2

*Пасля вайны не было*
*У нас хаты,*
*Затое была*
*У нас песня.*

*Не было ў нас*
*Кашулі,*
*Але была*
*Песня.*

*Не свяціла нам*
*Доля,*
*Але свяціла ўсім*
*Песня,*
*З якой пачыналіся*
*Ўсе дарогі,*
*Бітвы*
*І перамогі.*

3

*Наша песня —як сцяг:*
*Яе можна прастрэліць,*
*Яна можа і ўпасці,*
*Але толькі на міг...*
*толькі на міг...*
*на адзіны,*

*Бо падхопяць яе*
*Нескароныя вусны,*
*Якіх больш,*
*чымся зорак на небе,*
*кропель у Нарачы,*
*лісця ў дубровах, —*
*Падхопяць*
*І панясуць яе*
*ў Заўтрашні дзень!*

2003 г.

## ДЫЯЛОГ

Каля мемарыяльнай дошкі
Максіму Танку
на ягонай вуліцы

*Да Вас я не нанач —*
*На хвіліну прыйшоў:*
*Не спіцца, Яўген Іванавіч,*
*Ад думак і цяжкіх сноў.*

*У свеце пажарным,*
*Грымотным,*
*Дзе такі землятрус,*
*Як будзе жыць наш свабодны,*
*З мірнай душой беларус?*

*Бачыш,*
*І мне тут*
*Не спіцца.*
*Гляджу дзень і ноч*
*На Усход:*
*Дарога*
*можа*
*згубіцца,*
*Але яе знойдзе*
*Народ!*

2003 г.

## ЗАЛАТЫ ЗАПАС

*Золата,*
*нібы гліну,*
*Можна*
*Забраць у нас.*
*А тыя,*
*Што ўратавалі краіну,*
*Навек*
*Залаты*
*Запас!*

9 мая 2003 г.

## ТРЫЯЛЕТ

*Куды ты толькі ні зірні, —*
*Дзе карані — жыццё красуе,*
*У сонцы таленты гадуе, —*
*Куды ты толькі ні зірні.*
*І вораг сілу тую чуе —*
*Ён хоча знішчыць карані.*
*Куды ты толькі ні зірні, —*
*Дзе карані — жыццё красуе!*

2003 г.

## ЛАНДЫШАЎ ЦВЕТ

Музыка Уладзіміра Ул. Карызны
Верш Уладзіміра Ів. Карызны

*Замятае вясна*
*Снегам ландышаў сцежкі ля хвой,*
*Па якіх салаўі*
*Нас калісьці вадзілі з табой.*

*Прыпеў:*

*Хай жа ясніцца век,*
*Колькі суджана жыць-перажыць,*
*Цёплых ландышаў цвет,*
*Што ля самага сэрца ляжыць.*

*Твае вочы тады*
*Зоркі ў хмарах запальвалі ўміг, —*
*І так светла было*
*Майму сэрцу ўсю ночку ад іх.*

*Прыпеў:*
*Я табе перадаў*
*У касу ад вярбы каснічок,*
*Калі сам запалаў*
*Ад гарачай зары тваіх шчок.*

*Прыпеў:*

# ПРЫМІЦЕ ВІНШАВАННЕ

Празаіку Івану Панчанку 24 мая споўніцца 75 гадоў. Іван Трафімавіч нарадзіўся на Смаленшчыне ў сялянскай сям'і. З 14 гадоў пачаў працаваць (рабочыя спецыяльнасці). Быў супрацоўнікам газеты "Советская Белоруссия" (1953—1955), старшынёй калгаса (1955—1958), карэспандэнтам Мінскага абласнога радыё (1959—1960), працаваў у розных газетах. Публікуецца з 1953. Выдаў некалькі зборнікаў нарысаў і апавяданняў. Піша па-руску і па-беларуску.

Лімаўцы зычаць Івану Панчанку новых творчых поспехаў і здароўя.

25 мая пісьменніку Міхасю Стрыгалёву споўніцца 65 гадоў.

Нарадзіўся Міхаіл Лаўрэнцьевіч у вёсцы Недайка Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці. Закончыў Беларускі політэхнічны інтыстут, працаваў інжынерам, потым завочна скончыў Літінстытут імя М. Горкага ў Маскве (1969). Працаваў у Пермі (Расія) літкансультантам абласной пісьменніцкай арганізацыі, загадчыкам аддзела Дома народнай творчасці, літсупрацоўнікам газеты "Вечерняя Пермь", рэдактарам шматтыражкі. У 1978 годзе пераехаў жыць у Барысаў. Працаваў сцэнарыстам на кінастудыі "Беларусьфільм" (1980—1982), кіраваў літаб'яднаннем "Бярэзіна" ў Барысаве.

Друкуецца з 1956 года, першыя творы напісаў па-руску, а з 1961 перайшоў на беларускую мову. Выдаў некалькі кніг паэзіі: "Хмель" (1966), "Цвет времени", "Белая Русь" (1967), "Ростань" (1974) і іншыя, кнігу перакладаў "Четыре ветра: Поэзия народов Прикамья" (1970). Творы М. Стрыгалёва вельмі лірычныя і прысвечаны ў асноўным праблеме захавання духоўнасці ў чалавечым грамадстве.

Лімаўцы зычаць Міхасю Стрыгалёву здароўя, натхнення і творчага плёну.

# НА ХВАЛЯХ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ

Як заўсёды, цікавыя сустрэчы, аўтарская аналітыка чакаюць слухачоў Першага нацыянальнага канала радыё ў праграмах "Брама", "Авансцэна", "Палітра", "Сентыментальнае паляванне", якія прагучаць адлаведна ў аўторак, сераду, чацвер і пятніцу ў 22 гадзіны 30 хвілін.

"Кароткія гісторыі" — штодзённа, акрамя выхадных, — у 0.00 гадзін.

"Літаратурны праспект" і яго вядучы Алесь Бадак знаёмяць з навінамі літаратурнага жыцця ў суботу, у 10.45.

У суботу ў 16.15 гадзін — "Клас-і-К" (музыка і літаратура — а 17-й гадзіне сустрэча ў жывым эфіры з чарговым госцем-літаратарам.

Пра навінкі літаратуры будзе ісці размова ў "Кніжным кіёску", які будзе гучаць у нядзелю, у 17 гадзін.

У нядзелю, у 21.30 у перадачы "Канцэртная зала" гучаць падборкі паэтычнай класікі.

На канале "Культура" ў "Клубе дамаседаў" завяршаецца чытанне ў прамым эфіры аповесці У. Караткевіча "Лісце каштанаў". У 17.00 — "З фондаў радыё". А. Астроўскі. "Праўда добра, а шчасце лепш. "Радыёспектакль. Частка другая. У аўторак у "Клубе дамаседаў" пачынаецца чытанне аповесці У. Караткевіча "Сівая легенда". З 14.10 і да 17 гадзін — "Літаратурны аўторак" з Галінай Шаблінскай, у час якога прагучыць і яе аўтарская праграма "Гаспода". У 17.00 — "З фондаў радыё": "Дабравесце ад Уладзіміра". Монаспектакль паводле творчасці У. Караткевіча.

У пятніцу, у 17.00. "З фондаў радыё". М. Гогаль. "Як пасварыліся Іван Іванавіч з Іванам Нічыпаравічам". Радыёспектакль.

У суботу — паўтор аўтарскіх праграм "Сентыментальнае паляванне" (9.00), "Гаспода" (10.00), "Брама" (15.45). У нядзелю ў 19.00 — "Тэатр перад мікрафонам". Прагучаць драматычныя творы А. Экзюперы, І. Панчанкі, Ф. Ірбі, А. Астроўскага.

Н. К.



# ЗАСТАЕЦЦА ТОЛЬКІ САПРАЎДНАЕ

***Сёння, калі падробкамі пад літаратуру, у асноўным на рускай мове, у нас, між іншым, як і паўсюль, запалонена літаральна ўсё, гэты выпадак у прыгожым пісьменстве рэдкі. А менавіта: маленькая, у два друкаваныя аркушы, накладам усяго ў некалькі соцень экземпляраў кніжачка на беларускай мове, выдадзеная ў ліку апошніх у некалі папулярнай "Бібліятэцы часопіса "Маладосць" (перастала існаваць з 2002 г.) запатрабавана. І ў нас (ведаю, просяць у аўтара), і, да слова, у Расіі (там рыхтуюцца ў перакладах у розных выданнях творы з кнігі). Называецца яна "Шляхі і вяртанні". Яе аўтар — Навум Гальпяровіч. Жанр — эсэ. Адны калегі лічаць так: "У многім — новая для нас проза". Другія скептычна ўсміхаюцца: "Паэт піша прозу". То — няхай, развважаю я, адзін з яе рэдактараў (разам з Генрыхам Далідовічам), і задаю колькі пытанняў аўтару, з жаданнем звярнуць увагу на яго творчасць і проста чытачоў "ЛіМа", і нашых калег.***



***— Навум, у выпадку з табой, пісьменнікам, які даўно сцвердзіў сябе ў нашай літаратуры як паэт (ацэнак не даю), упэўнены, многіх прыхільнікаў тваёй творчасці цікавіць твой пераход ад паэзіі да прозы. Чаму?.. Як?.. Калі?..***

— Адразу тры пытанні... Але, усё адбылося натуральна, калі так можна сказаць. Мабыць, справа ў тым, што я заўсёды шукаў адказы на шматлікія пытанні аб сутнасці жыцця. І свайго асабістага. З гадамі ўсё часцей і часцей задумваешся аб уласнай біяграфіі. Скажам: вось я, маё жыццё, і вось жыццё знаёмых і незнаёмых мне людзей — ці так жывём, як трэба? Шукаў адказы на гэта столькі, колькі сябе помню. Спачатку ў вершах. Здаецца, гэта ўсё было маё. Мной пражытае, і як кажуць, перанесенае на паперу праз уласнае сэрца. І вось ужо даволі сталым чалавекам у адзін цудоўны момант адчуў: я ж не ўсё, што бачу, адчуваю і ведаю са свайго і чужога жыцця, магу выказаць у вершах. Захацелася напісаць нешта аб фарміраванні ўласнага погляду на свет. І, вядома ж, аб тым, з чаго ён складаецца. Скажам, каханне, узаемаадносіны між людзьмі, прырода і гэтак далей. Напісаць "разгорнута", у прозе.

Такім чынам і з'явіліся мае першыя лірычныя замалёўкі, якія пастулова,я к ты казаў, рэдагуючы кнігу, выраслі ў псіхалагічную прозу.

***— Але, што "псіхалагічная", адзначыў і Генрых Далідовіч, чытаючы твой рукапіс пасля мяне. А потым, адзначалі тое ж многія. У прыватнасці, І. Шаўлякова, на мой погляд, вельмі цікавы і ўдумлівы крытык. Ды і іншыя... Адзначалі, што гэта годныя малюнкі жыцця наогул. Між іншым, многія звярнулі ўвагу, што ва ўсіх іх аўтар выступае як дзеючы персанаж. Часам, што нямала каго здзіўляе, ён са сваімі, з чыйгосьці пункту гледжання, недахопамі, ці звычайнымі чалавечымі слабасцямі. І мне падабаецца, што ў тваіх гэтых аповедах няма прыхарошвання сябе, што, між іншым, нярэдка сустракаецца ў творах падобнага плану ў некаторых нашых калег. Здараецца, і нярэдка (асабліва ў дзённіках, што друкуюцца ў часопісах), аўтар — анёл, а ўсе астатнія — нікчэмнасць. Няёмка чытаць, асабліва, калі ведаеш аўтара як чалавека і які ён на справе. У цябе ж, думаю, жыццё, як жыццё. І гэта таксама прываблівае.***

— Вядома, зыходзячы з канкрэтнай жыццёвай сітуацыі, я, аўтар, нешта дадумваю, штосьці абагульняю. І нярэдка стараюся адысці ад партрэтнага падабенства майго героя з канкрэтным персанажам. Але ўсё адно ў аснове маіх навел, эсэ, аповедаў — асабістая біяграфія, або нешта вельмі блізкае — убачанае і пераасэнсаванае мной. Пішацца гэта звычайна, як кажуць, на адным дыханні. Амаль як вершы. Я ўвогуле не здольны да эпічнага пісання, не ўмею, а можа, не магу, не прывык штодзённа сядзець за пісьмовым сталом. Мабыць, не той тэмперамент. Мабыць, на такі стыль літзанятку ў многім паўплывала мая шматгадовая рэпарцёрская праца на радыё. Там жа трэба было ўсё рабіць амаль заўсёды вельмі і вельмі хутка.

Увогуле ж, калі гаварыць аб пераходзе паэта, і канкрэтна мяне ў дадзеным выпадку, да прозы, дык такіх выпадкаў у нашай літаратуры вельмі шмат. І ўдалых — таксама. Напрыклад, незабыўны Уладзімір Караткевіч, Леанід Дайнека, Янка Сіпакоў, Казімір Камейша, Раіса Баравікова і іншыя. А што датычыць жанру мініяцюры, дык вядома, Янка Брыль тут майстар найвялікшы не толькі ў беларускай літаратуры, а, мабыць, і ва ўсіх еўрапейскіх. Праўда, Іван Антонавіч празаік. Хаця, і паэт ён у прозе — непаўторны...

А да вершаў, уласных, вядома, адношуся зараз, у сталыя гады, гранічна строга. Так што ў маім узросце на паперу, мабыць, трэба пераносіць сапраўды толькі тое, што на самай справе "здарылася", а не напісалася ў выніку самапрымушэння. Але, менавіта тое трэба запісваць, што сапраўды падмацавана натхнёнай працай душы, тым, што сярод паэтаў вызначаецца, як "шэпт нябёс".

***— Так, кожны з нас працуе па-свойму. Кожнаму, мабыць, патрэбны менавіта свой унутраны штуршок, імпульс. Нехта піша, як ты. А нехта прымушае сябе "пакутаваць", і ганарыцца гэтым. Але, думаецца, галоўнае — вынік. І твой метад дае свой вынік. І гэта добра. Хаця, калі ўжо так, дык па творы любога аўтара можна зразумець, з якім настроем пісаў, якая энергетыка душы была ў той час, які імпульс. Асабіста мне ўсё гэта ў "Шляхах і вяртаннях" — імпануе. Да ўсяго — лёгкая самаіронія. Але, між іншым, яе некаторыя аўтары баяцца, а шкада...***

— І мне шкада. Толькі штучна яе ў твор не ўвядзеш. Ёсць — дык ёсць. Не — дык не. Хто як любіць...

***— Між іншым, пераехаўшы ў даволі сталым узросце ў Мінск з Наваполацка, дзе ты працаваў уласным карэспрандэнтам Беларускага радыё, ты амаль цалкам заняўся літаратурай. Працаваў у літаратурна-мастацкіх выданнях, быў намеснікам старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў. І вось зноў на Беларускім радыё, дзе, падкрэслю, пятнаццаць гадоў быў рэпарцёрам. Цябе запрасілі на пасаду галоўнага рэдактара, адказваеш за прапаганду беларускай літаратуры.***

— Удакладняю: калі ўвогуле браць мой працоўны стаж на радыё, дык — больш як дваццаць гадоў. Уласным карэспандэнтам — шаснаццаць. Радыё — як першае каханне — узаемнае, глыбокае. Прызнаюся, што пакідаць радыё было вельмі цяжка. Але ж вельмі і вельмі прыцягвала літаратура. Сам ведаеш, колькі гадоў пяжалі ў некаторых рэдакцыях падборкі вершаў правінцыяла Гальпяровіча, між іншым, як і многіх іншых правінцыялаў, ды і ў выдавецтве таксама...

***— Калі ўжо так, дык скажу, што ў "Бібліятэцы часопіса "Маладосць" кніжка вершаў тваіх за дзесяць гадоў так і не выйшла. І ты яе ціха забраў. Помню, яна была ўхвалена самім Анатолем Сямёнавічам Грачанікавым. А потым яго не стала...***

— Не выйшла дык не выйшла. Я прывык чакаць... І вось, працуючы ў літвыданнях, у саюзе, сумаваў па мікрафоне. І калі прапанавалі зноў на радыё, згадзіўся. Хаця, вядома, было боязна. Па-першае, калі ў адну раку, як кажуць, нельга ўвайсці двойчы, дык сёння радыё зусім іншая рака, чым тая, што была ў гады маёй працы на ім. Радыё істотна змянілася. Па-другое, сутнасць маіх абавязкаў сёння таксама іншая. Я з'ўляюся таксама членам мастацкага савета, удзельнічаю ў распрацоўцы стратэгіі і тактыкі рэспубліканскага радыёвяшчання.

Працую на радыё паўтара гады. Што зроблена?.. Верыцца, што нямала па прапагандзе нашай літаратуры і культуры, па прыцягненні пісьменнікаў да мікрафона, папулярызацыі іх твораў, роднага слова. І калі ўжо так — "ЛіМ" кожны тыдзень друкуе абвестку "На хвалях беларускага радыё". Нават калі хто і хацеў бы сказаць, ды і кажуць, што нібы на радыё знікла беларуская літаратура, на справе ж усё інакш: у эфіры гучыць роднае слова.

***— Навум, ты доўгі час жыў і працаваў далёка ад сталіцы. Мы, у прыватнасці і я, тыя, хто пакінуў раён трыццаць-дваццаць гадоў таму, іншы раз забываем, што ён нам даў, дае... Як творцам. У цябе ж, думаю, пачуццё яшчэ свежае.. Што табе даў раён?***

— Усё.

***— Ставіць клічнік?***

— Стаў. Усё! Я нарадзіўся і вырас у прыгарадным пасёлку саўгаса "Полацкі". Там жа скончыў школу. Працаваў грузчыкам. Быў вучнем слесара на заводзе. Працаваў карэктарам, літсупрацоўнікам у райгазеце, рэдактарам радыё на знакамітым аб'яднанні "Палімір". І, як ужо ты казаў, уласным карэспандэнтам Беларускага радыё ў прыдзвінскім рэгіёне, — больш як дзесяць раёнаў. Усе аб'ездзіў, абхадзіў.

***— Між іншым, такая твая біяграфія гадоў трыццаць таму, напрыклад, для маскоўскіх тваіх равеснікаў і калег была б сапраўднай казырнай картай. Маўляў, Гальпяровіч... А ў нас...***

— А ў нас — а ў нас, мабыць, амаль ва ўсіх нашых равеснікаў дзяцінства, падлеткавы час, юнацтва падобныя. У нас будучыя пісьменнікі і ў вёсках і ў маленькіх гарадках — працу ведаюць змалку. Нам не трэба прыдумваць біяграфіі. І казыраць імі.

***— Але ганарыцца — трэба.***

— І ганарымся. І я — таксама. Канечне ж, усе мае дарогі на Віцебшчы-



не — мае. І радасныя, і самотныя. І ў спякоту, і ў сцюжу. І ўсе бясконцыя знаёмствы з хлеберобамі, механізатарамі, настаўнікамі, урачамі, інжынерамі, наогул, з самымі рознымі людзьмі — маё. Гэта мой свет. Такі свет, які вакол мяне, і ў якім я.

Здарылася так, што я нямала паездзіў і па былым Савецкім Саюзе. Сярэдняя Азія, Далёкі Усход, Украіна, Нечарназем'е... Цікава. У памяці ўсё. А родны — Полацк.

***— Разумею, калі чую: вёска — родная, горад — родны. З канкрэтнай назвай.***

— Тады слухай. Я зараз, заплюшчу вочы, — і бачу кожную вулачку, завулак... Словы "Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр", "Сафійскі сабор", "Брацкая школа Сімяона Полацкага" і шмат што іншае, як ты кажаш, з канкрэтнай назвай – для мяне — гэта частка майго жыцця. У ім — маё дзяцінства, маладосць, сталасць.

Ужо казаў, што ў сваёй творчасці я нічога не прыдумваю. Бяру ўсё са сваёй малой радзімы, у сваім "Полацкім перыядзе". Хаця праз некалькі гадоў жыцця ў Мінску ўжо адчуваю сябе сапраўдным мінчуком: сталася так, што і горад, і блізкія людзі ў ім арганічна ўвайшлі ў маё жыццё. Часам нават здаецца, што жыў тут заўсёды. І тут, як і там, шмат добрага і кепскага.

***— Але, калі ўжо "і тут, і там", хай гэта і выбіваецца з тэмы гаворкі, хацелася б удакладніць. Дык вось, часам чуеш: там, маецца на ўвазе глыбінка, усё чысцей... Ва ўсякім разе, не чуваць, каб "там" было столькі ўсялякай непрыстойнасці між людзьмі, у прыватнасці, і сярод нас, пісьменнікаў, як "тут". Ці так?***

— Мабыць, кожны мяркуе так, як мяркуе... Што датычыць нас, літаратараў, то і ў нас, як у грамадстве, ёсць усё: і добрае, і не вельмі. У СБП я адпрацаваў амаль чатыры гады. Усе мы, і "правыя" і "неправыя", востра, па-свойму перажываем многія працэсы жыцця грамадства. Не хачу ўдавацца ў падрабязнасці, не хачу даваць ацэнку некаторым паважаным і аўтарытэтным людзям, але асобныя да крыўднага расчаравалі. Іншыя ж — наадварот, у вельмі няпростых умовах адкрыліся нечакана высакароднa і мудра. Хацелася б наогул, каб і сярод нас, літаратараў, было больш прыстойнасці, чэснасці, каб мы менш кіраваліся асабістымі амбіцыямі, а больш думалі аб справе.

Я, мабыць, як і вельмі, вельмі многія, хваравіта перажываю цынізм, бездухоўнасць, пошасць у грамадстве, сярод пісьменнікаў — тым больш. Але, хоць для ўсяго заганнага, толькі што названага мной, як кажуць, сёння адкрыты ўсе шлюзы, тым больш на гэтым фоне набываюць сапраўдную каштоўнасць наогул для многіх людзей, і літаратараў у прыватнасці, спрадвечныя прынцыпы дабра і справядлівасці. Тут, упэўнены, вялікае поле дзейнасці для беларускай літаратуры. Для кожнага, хто валодае мастацкім словам, незалежна ад жыццёвых, палітычных і іншых пазіцый, якіх прытрымліваемся. У сувязі з гэтым асабіста мяне, мабыць, як і многіх літаратараў, хвалюе, што людзі ўсё менш і менш чытаюць сапраўднай літаратуры. Трывожыць, што ў асяроддзі літаратараў з'явілася цэлая плеяда хвацкіх рамеснікаў, якія дзеля асабістай нажывы гатовы ісці ва ўслужэнне тым, хто мае самыя пачварныя прыхільнасці. Хвалюе, што сёння нізкія тыражы літаратурна-мастацкіх часопісаў...

***— Падзяляю тваю заклапочанасць. Лічу яе як праяву шчырасці, рысу, вельмі неабходную пісьменніку. А калі так, дык з твайго дазволу бяру на сябе смеласць "выдаць" чытачам тайну з'яўлення тваіх "Шляхоў і вярганняў". Можа, найперш таму, каб зняць абсалютна незаслужаны папрок табе: маўляў, выдаў жа ў "Бібліятэцы часопіса "Маладосць", маючы пасаду.***

***Дык вось, "Шляхі і вяртанні" выйшла (2 друкаваныя аркушы, наклад 400 экземпляраў) якраз тады, калі Навум Гальпяровіч з'явіўся аргсакратаром Саюза пісьменнікаў. Якім чынам? Наступным. Памятаецца, колькі гадоў ляжала ў "Бібліятэцы..." яго кніга вершаў, але так і не выйшла? За гэты ж час некаторыя калегі выдаліся па 2—3 разы. Найбольш "сціплыя", найбольш "ціхія". Я, як тагачасны загадчык аддзела публіцыстыкі, папрасіў аўтара, каб ён даў мне пачытаць навелы, і тыя, што ўжо друкаваліся, і новыя. Калі прачытаў, то без яго дазволу даў пачытаць нашым супрацоўнікам празаікам Віктару Гардзею і Анатолю Казлову. Тыя ў адзін голас: трэба кнігу выдаць! Пасля асабіста я амаль год угаворваў аўтара даць згоду. Той адмаўляўся: "Працую ў апараце СП. Што скажуць?..". Тут ужо я зазлаваў: "Колькі можна глядзець на тых, што "скажуць"... З прычыны і без прычыны. Ды дзе? У літаратуры".***

***А ці: шкада патрачанага часу ў чаканнях?***

— Не шкада. Думаю, у літаратуры, як і ў любой творчасці, час — паняцце адноснае. Усё напісанае рана або позна выдаецца. Але, як ведаем, застаецца толькі сапраўды вартае. Сэнс гэтага разумееш з часам.

**Гутарыў Уладзімір САЛАМАХА**

*НА ЗДЫМКАХ: Уладзімір МАРУК, былы рэдактар "Звязды" Аркадзь ТОЎСЦІК, Алесь ПІСЬМЯНКОЎ і Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ; з сынам Якуба Коласа Міхасём МІЦКЕВІЧАМ; Віцебшчына, на возеры Зічкова.*



**P.S. Творчая вечарына Навума ГАЛЬПЯРОВІЧА "Святло ў акне" адбудзецца 5 чэрвеня ў тэатры "Зніч" (у памяшканні "Чырвонага касцёла") а 19-ай гадзіне.**

ДАНІНА ПАМЯЦІ

***Кім быў Барыс МЕЛЬНІКАЎ, што калегаваць з ім лічылі за гонар патрабавальныя да сябе інтэлігенты? Інтэлектуальны унікум, калі можна так сказаць, класічны інтэлектуальны унікум. Рабіў для беларускай навуковай і культурнай веды незаменнае. Уласным прыкладам арганізаванай, адпаведна вышэйшым стандартам працы на ніве энцыклапедыі, выдавецкай справы, кніжнасці сцвярджаў аб'ектыўныя прынцыпы пазнання.***

# ВА ЎСІМ БЫЎ САМАСТОЙНЫ



Барыс Мельнікаў нарадзіўся ў Мсціславе 30 кастрычніка 1937 года.Бацьку забраў НКВД, дзе ён і згінуў. Маці не стала падчас вайны. Выхоўваўся ў дзіцячым доме. Пасля заканчэння школы паступіў у Політэхнічны інстытут, атрымаў спецыяльнасць інжынера. З маленства ўвайшоў у свет кнігі.

Этапнымі ў біяграфіі Мельнікава былі гады працы ў рэдакцыі Энцыклапедыі. Тут для яго надзвычайнай эрудыцыі, тэарэтычнай выкшталцонасці і дасканалай метадалогіі адкрылася шырокае поле дзейнасці. Ад дакладных і тэхнічных навук да "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы" — такі быў абсяг рыхтаваных ім матэрыялаў, што змушае ўспомніць класічныя прыклады універсалізму ў еўрапейскай культуры.

Пазней, ужо на пенсіі, на падставе сваіх штогадовых назіранняў-запісаў стварыў сістэматызаваны збор фактаў і падзей грамадскага жыцця ў жанры старажытнабеларускага дыярыуша — дзённіка-хронікі ў шаснаццаці тамах. Меўся здаць у нацыянальны архіў. Вёў запісы далей — апошні датаваны 10-м красавіка 2003 года.

Ужо першага знаёмства з Барысам ставала, каб адчуць у ім асобу. Ва ўсім ён быў самастойны. Пераймальнасць, другаснасць, як у навуцы, так і ў асабістых чалавечых стасунках прымаў за фальш. Таму звесці дружбу з ім было няпроста. Бытавую памяркоўнасць на ідэйную, маральную сферу не пераносіў, а ў палемічных спрэчках быў радыкальны, гатовы адстойваць ісціну цаной разрыву са спрачальнікам. Вернасць сяброўству вызнаваў як абсалютную каштоўнасць, без якой жыццё траціць свой цвет. Верны быў стоенай моцнай пульсацыяй пачуцця з яго правам быць самім сабой.

Барыс з'яднаў свой лёс з жанчынай высокага душэўнага хараства і шчодрасці (удавой мастака Лявона Баразны, які трагічна загінуў ад рук забойцаў), прыняў на сябе бацькоўскі абавязак: узгадаваў дзвюх асірацелых дзяўчынак, забяспечыў іх адукацыю, апекаваўся іхнім жыццеўладкаваннем.

Задоўга да пасвабаднелых дачыненняў у грамадстве Барыс Мельнікаў спавядаў свабоду ў сваёй душы і годна трымаўся яе насамрэч. Для нацыянальнай інтэлігенцыі, гуманітарыяў рознага кшталту "тэхнар", акуратыст-педант Мельнікаў быў бясспрэчным аўтарытэтам і прыкладам шырокага бачання свету і адначасна паслядоўнага нацыянальнага самаўсведамлення і самавызначэння.

З яго стратай само ўяўленне пра інтэлігентнасць можа ў нас спахмурнець. Светлы цень Барыса яшчэ над намі. Трэба заставацца шчырымі.

Няшчасце не адмяняе сэнсу жыцця. Страшнейшая за няшчасце, страшнейшая за смерць толькі няшчырасць. Для таго і знаюць людзі жалобу, каб быць шчырымі дарэшты. Да апошняга.

**Аляксандр БОЛСУН, Вячаслаў ВАЙТКЕВІЧ, Элеанора ВЕЦЕР, Пётра ДРАЧОЎ, Уладзімір КРУКОЎСКІ, Мікола КУПАВА, Алесь МАРАЧКІН, Віктар МАРКАВЕЦ, Зміцер САНЬКО, Уладзімір САЦУТА, Пётра СВЕНТАХОЎСКІ, Здзіслаў СІЦЬКА, Віталь СКАЛАБАН, Іосіф ХАЎРАТОВІЧ, Міхась ЧАРНЯЎСКІ, Алесь ШАТЭРНІК**

ВЕЧАРЫНЫ

# «ВЕТРАЗЬ» ЗБІРАЕ СЯБРОЎ

18 гадоў існуе пры Чэрвеньскай цэнтральнай раённай бібліятэцы літаратурна-музычны клуб "Ветразь". За час існавання клуба прайшло шэраг цікавых і змястоўных мерапрыемстваў. У сакавіку збіралася літаратурна-музычная гасцёўня "Лірнік краіны ветлай", прысвечаная 50-годдзю з дня смерці беларускага кампазітара Міколы Равенскага. Трэба сказаць, што М. Равенскі — наш зямляк. Нарадзіўся ён на Ігуменшчыне ў вёсцы Капланцы (цяпер Бярэзінскі раён). У гады Вялікай Айчыннай вайны Равенскі жыў у нашым горадзе. Пра жыццё і творчасць кампазітара шчыра і пранікнёна распавядала бібліятэкар І. Зяўчыкава. На пасяджэнні прысутнічаў пісьменнік, жыхар горада Чэрвеня Генадзь Аўласенка. Увазе прысутных быў прапанаваны ўрывак з яго драмы "Вяртанне", прысвечанай лёсу кампазітара. "Міколу Равенскаму" — так назваў свой верш настаўнік беларускай мовы і літаратуры У. Адамовіч. А дырэктар краязнаўчага музея Г. Аўласенка ў сваіх успамінах прыгадала лістапад 1993 года, калі ў Чэрвені адбылося адкрыццё мемарыяльнай дошкі ў гонар кампазітара. На свята была запрошана яго дачка Вольга Аляксеенка-Равенская. Ганна Міхайлаўна і зараз падтрымлівае з ёй цесныя сувязі. І як яна адзначыла — гэта чалавек з адкрытай душой, шчыры і гасцінны.

На працягу ўсёй вечарыны гучалі музычныя творы М. Равенскага: "Мой родны кут" на словы Якуба Коласа, "Слуцкія ткачыхі" і "Не кувай ты, шэрая зязюля" на словы М. Багдановіча, гімн-малітва "Магутны Божа" на словы Н. Арсеннеевай, арыя Браніславы з оперы "Браніслава" ў выкананні Вольгі Мікалаеўны Аляксеенкі-Равенскай, а таксама песні ў выкананні Лювенскага студэнцкага хору, запісы якіх былі прадастаўлены з фанатэкі актыўнага ўдзельніка клуба У. Дарагужа.

**Святлана ЖДАНОВІЧ, загадчыца аддзела абслугоўвання і інфармацыі Чэрвеньскай ЦРБ.**

**Саюз Беларускіх пісьменнікаў выказвае шчырае спачуванне празаіку Міхасю Клебановічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю ЖОНКІ.**

АНОНС!

# КІРЧУК ПАВАРОЖЫЦЬ...

Сольная праграма лідэра этнатрыо "Троіца" Івана Кірчука, замоўленая на красавік, перанесена. Нічога надзвычайнага: музыкант рыхтуе сваю імпрэзу пад назвай "Варажбіт", і адначасова ідзе праца над яго адмысловым сцэнічным строем, які прыдумалі прафесійныя мастакі, скарыстаўшы ў аздабленні тканіны розныя рытуальныя дробязі. "Музычны варажбіт" завітае ў канцэртную залу "Мінск" 26 мая а 19-й гадзіне (вул. Кастрычніцкая, 5). У суправаджэнні спаканвечных беларускіх народных інструментаў прагучаць узоры глыбінных пластоў фальклору, у якіх адлюстраваўся светапогляд нашых продкаў, іх мудрасць, іх духоўнасць, само жыццё.

С. Б.



ПРЭМ'ЕРА

## ДЗЕЦІ І... «КОШКІ»

Дзіцячы музычны тэатр "Казка" пад кіраўніцтвам Глеба Аляксандрава нараджаўся і набываў прыхільнікаў у сценах Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Беларусі (цяпер — дзяржаўны музычны). Пры канцы 90-х яго спектаклі зніклі з афішы. Але не знік дзіцячы тэатр! Маэстра Аляксандраў працягваў працаваць з юнымі артыстамі, якім ад 7 да 16 гадоў, калі трэба, дапучаў дарослых выканаўцаў, сабраў лепшых сталічных музыкантаў (з Акадэмічнага сімфанічнага, з аркестра опернага тэатра). У апошнія гады "Казку" прытуліў "Золак" — палац пазашкольнай работы Заводскага раёна Мінска, дзе ёсць належным чынам абсталяваная тэатральная сцэна. Гісторыя дзіцячага творчага калектыву адлюстроўваецца ў змястоўным рэпертуары: "Тры пстрыкі" на музыку Д. Шастаковіча, "Беласнежка і сем гномаў" Э. Калманоўскага, "Вясновая песня" В. Войціка, спектакль паводле казак Х. К. Андэрсена з музыкай С. Баневіча, канцэртная праграма ў 2-х аддзяленнях. Між іншым, тэатр "Казка" двойчы стаў лаўрэ- [illegible] Міжнародна-га дзіцячага фестывалю ў С.-Пецярбургу.

Увага: прэм'ера! 29 мая ўпершыню на Беларусі адбудзецца паказ славутага мюзікла Э. Л. Уэбера "Кошкі". Музычны кіраўнік, пастаноўшчык і дырыжор Г. Аляксандраў, галоўныя выканаўцы — дзеці. Тэатр "Казка" пакажа свой новы спектакль у палацы "Золак" а 18-й гадзіне.

С. Б.

АКЦЭНТ!

## НЕ ПРОСТА ГОСЦЬ!

Марцін ЦІРАКЯН з 6 гадоў пачаў займацца на скрыпцы пад кіраўніцтвам прафесара С. Куцоўскага. Было гэта ў Растовена-Доне, адкуль і пачался канцэртная кар'ера юнага музыканта. З 12 гадоў ён ужо выязджаў на гастролі па гарадах Паўночнага Каўказа, граў І. С. Баха, Паганіні. Тады ж атрымаў 1-ю прэмію на Паўночнакаўказскім конкурсе скрыпачоў і віяланчэлістаў. Потым быў Мінск...

У 1992 г. М. Ціракян скончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю (цяпер БАМ), дзе вучыўся ў прафесараў В. Пархоменкі ды В. Зяленіна. З 91 па 95 г. працаваў у Дзяржаўным камерным аркестры Беларусі.

Далейшае творчае жыццё скрыпача было звязана з камернымі аркестрамі ды ансамблямі Швецыі, Партугаліі, такіх мастацкіх асяродкаў, як Масква, Зальцбург. Аспірантуру адукацыю атрымаў у Ратэрдаме ў вядомага галандскага прафесара Н. Марозавай, якая прадстаўляе там пецярбургскую скрыпічную школу. Стажыраваўся ў зальцбургскім універсітэце "Мацарыум" (клас Р. Рычы).

28 мая а 19-й гадзіне Марцін Ціракян дае сольны канцэрт у амаль што родных сценах: у Беларускай акадэміі музыкі (вул. Інтэрнацыянальная, 30). Партыя раяля — Сяргей Багачоў.

Уваход вольны.

АФІША МАЯ



**Нацыянальны акадэмічны тэатр балета**
пл. Парыжскай Камуны, 1,
тэл. 234-06-66

23 — А. Пятроў "Стварэнне свету"
25 (раніца) — П. Чайкоўскі "Шчаўкунчык"
30 — П. Чайкоўскі "Лебядзінае возера"

Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне

**Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы**
пл. Парыжскай Камуны, 1,
тэл. 234-10-41

25 — В. А. Моцарт "Вяселле Фігара"
29, 30 — М. Мусаргскі "Хаваншчына" (прэм'ера)

Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне



**Беларускі дзяржаўны музычны тэатр**
вул. Мяснікова, 44,
тэл. 220-81-26, 220-92-54

29, 30 — І. Кальман "Каралева чардаша" (прэм'ера)
31 — А. Рыбнікаў "Юнона" і "Авось", рок-опера

Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне

**Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы**
вул. Энгельса, 7,
тэл. 227-17-17

23 — М. Манохін "Парфён і Аляксандра", пастараль
26 — А. Дзялендзік "Смак яблыка"

**Малая сцэна**
вул. Энгельса,12

23 — А. Аверчанка "Мы і яно", "машынальная" камедыя
24 — Д. Хуан "Дом, дзе спяць прыгажуні", японская гісторыя
26 — М. Сайман "Я не пакіну цябе..." (прэм'ера)

Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне

**Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага**
вул. Валадарскага,5,
тэл. 220-15-41, 220-39-66

**Вялікая сцэна**

23 — М. Горкі "Дзівакі", (прэм'ера)
24 — Д. Фо, Ф. Рамэ "Свабодны шлюб"
25 — У. Шэкспір "Гісторыя пра Гамлета, прынца дацкага"
27 — Ф. Рэньяр "Адзіны спадкаемца", камедыя
28 — А. Камю "Калігула", у стылі "HARD"
29 — А. Папова "Сняданак на траве" (прэм'ера)
30 — Г. Гауптман "Перад заходам сонца", гісторыя дзіўнага кахання

Пачатак ранішніх спектакляў а 11-й, вячэрніх а 19-й гадзіне

**Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі**
вул. Крапоткіна, 44,
тэл. 234-60-08

24 — А. Шчуцкі "Капаснікі", трагікамедыя (прэм'ера)
25 — С. Кавалёў "Стомлены д'ябал"
27 — Д. Альмагор "Толькі дурні сумуюць"
28 — А. Курэйчык "Понцій Пілат"
29 — М. Рудкоўскі "Жанчыны Бергмана"
30 — В. Панін "Песні ваўка"

Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне

**Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр**
вул. Даўмана,1,
тэл. 289-32-62

18 — А. Астроўскі "Позняе каханне"
23 — Б. Шоу "Пігмаліён", раман
24 — Ж. Б. Мальер "Хітрыкі Скапэна", камедыя
25, 31 — Т. Уільямс "Трамвай "Жаданне"
28 — І. Б. Зінгер "Тойбеле і яе дэман", трагікамедыя
29, 30 — Бамаршэ "Вар'яцкі дзень, альбо Вяселле Фігара"

Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне

**Тэатр-студыя кінаакцёра**
пр. Машэрава,13,
тэл. 223-08-11

23 — Д. Кілці "Мілы хлус" (прэм'ера)
24, 25 — Б. Шоу "Пігмаліён", музычная камедыя
27, 28 — А. Даніл аў "Мы ідзём глядзець "Чапаева", трагіфарс
29, 30 — Л. Жухавіцкі "Апошняя жанчына сеньёра Хуана", авантурная камедыя

Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне

У СТАЛІЦЫ



**Зала камернай музыкі**
**(пр. Ф. Скарыны, 44а)**

**23 — Санатны вечар.** Студэнт Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі А. Хаскін (флейта), піяніст І. Сцепанцоў пры ўдзеле флейтыста П. Студзеннікава. Творы Баха, Пракофева, Муке Пуленка, Доплера ды інш.

**24 — фартэпіянная музыка** ў выкананні студэнтаў класа дацэнта БАМ У. Кузьменкі.

**26 — 100-годдзю Сяргея Яроміна, выдатнага рускага трубача**, прысвячаецца. Канцэрт студэнтаў класа прафесара М. Волкава. Граюць Я. Лятэ, Д. Макарэвіч, Д. Чахоўскі, М. Казлоў, У. Давыдоўскі, І. Цацоха, А. Антановіч, А. Касцюшка, Д. Бянько. Партыя фартэпіяна К. Ракуць. Творы М. Кл. Агінскага, Радзівіла, Рахманінава, Гендэля, Гарэлавай ды інш.

**27 — Цымбалістка К. Анохіна.** За раялем — А. Вашкевіч. Музыка Чайкоўскага, Рахманінава, Паганіні, Сен-Санса, Штрауса.

**30 — Канцэрт стыпендыята Спецыяльнага фонду Прэзідэнта РБ па падтрымцы таленавітай моладзі А. Дзямідзенка** (фартэпіяна, клас Н. Котавай), К. Рэут (скрыпка), В. Альхоўскай (віяланчэль, клас А. Ганчарык). Творы Баха, Шуберта, Свірыдава, Шапэна ды інш.



*НА ЗДЫМКАХ: Наталля ГАЙДА; клас прафесара М. ВОЛКАВА.*





Выходзіць З 1932 ГОДА
У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Віктар ШНІП

Рэдакцыйная рада:
Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Леанід ГАЛУБОВІЧ,
Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,
Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,
Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск,
вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
галоўны рэдактар — 284-6673
намеснік галоўнага рэдактара — 284-4404
адказны сакратар — 284-6673

АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-7965
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965
літаратурнага жыцця — 284-7965
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965
паэзіі і прозы — 284-7965
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно — 284-8153
выяўленчага мастацтва — 284-7965
карэктарская — 284-8091
бухгалтэрыя — 284-6672
Тэл./факс — 284-85-25

*Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1655
Нумар падпісаны ў друк 21.05.2003 у 15.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 1230

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12